• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ○ цана 1000 рублёў

12 снежня 1996 г. чацвер, № 288 (23091)

# ЗВЯЗДА





## УСЛЕД ЗА ДОЛАРАМІ Ў КРАІНЕ ЗНІКАЕ МАРГАРЫН

**З 11 снежня прыпыніў сваю работу Мінскі маргарынавы завод. Асноўная прычына — адсутнасць валютных сродкаў на набыццё за межамі краіны неабходнай сыравіны.**

Упершыню дэфіцыт таннага айчыннага маргарыну закрануў спажыўца (прычым, не толькі ў сталіцы, але і ў абласцях) недзе на пачатку кастрычніка. Поўны час тады на паліцах магазінаў была толькі замежная «Rama» па даволі высокіх цэнах. Праз некалькі тыдняў сітуацыя крыху выправілася: у гандлёвых кропках зноў пачалі прадаваць прадукцыю Мінскага маргарынавага завода. На жаль, з канца лістапада—пачатку снежня сітуацыя паўтарылася: танны маргарын зноў знік з паліц, у чарговы раз саступіўшы месца ўсё той жа «Rame». Дарэчы, праблема з'явілася не ў адзін момант: цяжкасці прадпрыемства адчуваліся ўжо даўно, да нядаўняга часу працавалі толькі 20 працэнтаў вытворчых магутнасцей завода. Зараз кіраўніцтва прадпрыемства стукае ва ўсе дзверы ўрада краіны, каб нейкім чынам знайсці неабходную валюту для набыцця на Украіне сыравіны. Па апошніх звестках, адказ для завадчан там пакуль несуцяшальны: долараў няма. Таму адказаць на пытанне — як доўга будзе стаяць Мінскі маргарынавы завод — даволі цяжка.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*СКАНДАЛ*

## Мар'ян Місуна — у СІЗО

**Былы першы сакратар Мінскага гаркома КПБ Мар'ян Місуна — трапіў за краты.**

Цікава, што «непатапляльны» Мар'ян Іосіфавіч, якому на працягу больш як трох гадоў удавалася пазбягаць нават лавы падсудных (судовы працэс над ім па розных прычынах пастаянна адкладваўся), апынуўся ў следчым ізалятары (СІЗО), можна сказаць, па сваёй жа віне.

Справа ў тым, што амаль месяц назад Мар'ян Місуна, які знаходзіўся на волі, кудысьці знік і не з'яўляўся на судовы працэс над ім. Месцазнаходжанне былога партыйнага «боса» афіцыяльна не маглі паведаміць нават яго родныя. Праваахоўныя органы вырашылі, што Мар'ян Іосіфавіч паўтарыў «подзвіг» свайго сына, які ў верасні 1994 года быў асуджаны на 6 гадоў пазбаўлення волі за рэкет, але збег прама з залы Першамайскага нарсуда Мінска.

Дарэчы, Місуну-малодшага праваахоўныя органы не могуць знайсці і да гэтага часу. Па некаторых звестках, ён зараз знаходзіцца ў Германіі, куды выехаў з дапамогай некаторых паплечнікаў бацькі.

А вось Мар'ян Іосіфавіч некалькі дзён таму ўсё ж нечакана з'явіўся ў суд Кастрычніцкага раёна сталіцы, дзе слухаецца яго справа. Разгляд справы Мар'яна Місуны, які, нагадаем, абвінавачваецца ў крадзяжы маёмасці ў асабліва буйных памерах, нарэшце быў прадоўжаны. А каб у далейшым не турбавацца ў пошуках «няўлоўнага» экс-сакратара ГК КПБ, які, між іншым, парушыў падпіску аб нявыездзе і, па яго ж словах, знаходзіўся амаль тры тыдні ў Маскве, суддзя Кастрычніцкага нарсуда Мінска Ігар Крот прыняў рашэнне змясціць Мар'яна Місуну ў СІЗО.

Такім чынам, ёсць усе падставы меркаваць, што крымінальная справа Місуны-старэйшага, якая была пачата яшчэ ў 1993 годзе, хутка дойдзе да лагічнага канца. Бо зараз знаходзячыся за кратамі, Мар'ян Місуна, відаць, зусім не зацікаўлены ў зацягванні судовага працэсу.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## ФОТАСЛОВА

Яўген ПЯСЕЦКІ









*Мова мая —*
*ты з крынічных глыбінь прагучала,*
*Мове маёй*
*вырывалі ў катоўнях язык,*
*Мовою гэтай*
*Беларусь абаронцаў склікала*
*І над калыскай спявала*
*мне пра палі і лясы.*
*Мова мая —*
*ў шапаценні травы нарачанскай,*
*Мова мая —*
*у трывожнай маўклівасці хмар,*
*Доля твая —*
*быць заўжды не халуйскай, не панскай,*
*Годнаю быць*
*вольных думак і вольных абшар.*

### ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*11 снежня 1996 г. № 3 г. Мінск*

## Аб зацвярджэнні Палажэння аб выбарах членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

Да прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь, які вызначае парадак выбараў членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Зацвердзіць Палажэнне аб выбарах членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).

2. Гэты Дэкрэт уступае ў сілу з дня яго апублікавання, мае часовы характар і дзейнічае да прыняцця Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь рашэння, прадугледжанага часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*Зацверджана Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 снежня 1996 г. № 3*

## ПАЛАЖЭННЕ аб выбарах членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

### І. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Асновы выбараў членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь**

Выбары членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь* праводзяцца на аснове роўнага і ўскоснага выбарчага права пры тайным галасаванні.

Выбары членаў Савета Рэспублікі з'яўляюцца свабоднымі: дэпутат адпаведнага мясцовага Савета дэпутатаў базавага ўзроўню асабіста вырашае, ці ўдзельнічаць яму ў выбарах і за каго галасаваць.

Членам Савета Рэспублікі можа быць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які дасягнуў 30 гадоў і пражыў на тэрыторыі адпаведнай вобласці, горада Мінска не менш пяці гадоў.

**Артыкул 2. Роўнае выбарчае права**

Усе дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню ўдзельнічаюць у выбарах членаў Савета Рэспублікі на роўных падставах.

Выбары членаў Савета Рэспублікі ад абласцей і горада Мінска з'яўляюцца роўнымі:

кожны дэпутат мясцовага Савета дэпутатаў базавага ўзроўню мае адзін голас;

ад абласцей і горада Мінска выбіраецца роўная колькасць членаў Савета Рэспублікі.

**Артыкул 3. Ускоснае выбарчае права**

Выбары членаў Савета Рэспублікі з'яўляюцца ўскоснымі: грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія валодаюць выбарчым правам, дэлегуюць дэпутатам мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню і горада Мінска права выбіраць членаў Савета Рэспублікі.

**Артыкул 4. Тайнае галасаванне**

Галасаванне на выбарах членаў Савета Рэспублікі з'яўляецца тайным: кантроль за волевыяўленнем галасуючых не дапускаецца.

**Артыкул 5. Забеспячэнне правядзення выбараў**

Правядзенне выбараў членаў Савета Рэспублікі забяспечваюць абласныя, Мінскі гарадскі выканаўчыя камітэты.

Кантроль за захаваннем заканадаўства аб выбарах членаў Савета Рэспублікі, а таксама яго растлумачэнне ў мэтах забеспячэння аднолькавага прымянення ажыццяўляюцца Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

**Артыкул 6. Галоснасць пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў членаў Савета Рэспублікі**

Падрыхтоўка і правядзенне выбараў членаў Савета Рэспублікі ажыццяўляюцца адкрыта і галосна.

На сумесных пасяджэннях прэзідыумаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню і адпаведных выканаўчых камітэтаў па вылучэнню кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі, а таксама на сумесных сходах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню па выбарах членаў Савета Рэспублікі ад абласцей і горада Мінска маюць права прысутнічаць дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў пярвічнага і абласнога ўзроўняў, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі, а таксама назіральнікі ад іншых дзяржаў і міжнародных арганізацый. Паўнамоцтвы ўказаных асоб павінны быць пацверджаны адпаведным дакументам.

Сродкі масавай інфармацыі асвятляюць ход падрыхтоўкі і правядзення выбараў членаў Савета Рэспублікі, іх прадстаўнікам гарантуецца доступ на ўсе пасяджэнні і сходы, звязаныя з выбарамі. Прэзідыумы мясцовых Саветаў дэпутатаў, выканаўчыя камітэты прадстаўляюць ім інфармацыю, звязаную з падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў.

**Артыкул 7. Права вылучэння кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі**

Права вылучэння кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі належыць прэзідыумам мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню і горада Мінска сумесна з адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі.

**Артыкул 8. Несумяшчальнасць статусу члена Савета Рэспублікі са службовым становішчам**

Членамі Савета Рэспублікі не могуць быць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, члены Урада Рэспублікі Беларусь, суддзі.

**Артыкул 9. Расходы, звязаныя з выбарамі членаў Савета Рэспублікі**

Расходы, звязаныя з падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў членаў Савета Рэспублікі, праводзяцца за кошт дзяржавы з рэспубліканскага бюджэту ў памеры, які зацвярджае Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь.

На падрыхтоўку і правядзенне выбараў членаў Савета Рэспублікі могуць быць выкарыстаны таксама сродкі грамадскіх аб'яднанняў, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, грамадзян. Указаныя сродкі ў добраахвотным парадку пералічваюцца Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

Парадак размеркавання і выкарыстання грашовых сродкаў, выдзеленых на правядзенне выбараў, устанаўліваецца Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

*Далей — Савет Рэспублікі.

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## БЕЛАРУСКІЯ «ЛЕГКАВУШКІ»: ВЫРАБЛЯЦЬ БЫ РАДЫ...

**Год назад у прэсе з'явілася паведамленне пра дамоўленасці аб будаўніцтве ў Беларусі мантажнай лініі па вытворчасці румынскіх аўтамабіляў «Дачыа». У верасні бягучага года ў газетах, прайшла інфармацыя аб магчымым супрацоўніцтве карэйскай фірмы «Дэу» з магілёўскім заводам «Трансмаш». Маўляў, у недалёкай будучыні легкавыя аўтамабілі пачнуць вырабляць у Магілёве.**

Як паведаміў генеральны дырэктар завода Валерый Чарткоў, супрацоўніцтва з карэйцамі не склалася: тыя паставілі грабежніцкія ўмовы. Прадаваць завод за бясцэнь няма патрэбы, тым больш, што прадпрыемства знайшло сваю нішу, выпускае паўпрычэпы каля 30 відаў, краны грузападымальнасцю 15 і 25 тон, асвоіла вытворчасць рэфрыжэратараў і іншай тэхнікі, якая карыстаецца ўстойлівым попытам і на радзіме, і ў Расіі. У суседнюю дзяржаву, дарэчы, накіроўваецца каля 80 працэнтаў прадукцыі. Што ж датычыцца румынскага аўтамабіля, то на Беларусі перспектывы ў яго няма. Па меркаванню спецыялістаў Міністэрства прамысловасці рэспублікі, і якасць яго, і цана не змогуць канкурыраваць на беларускім рынку.

Што ж прапануе беларусам айчынная машынабудаўнічая галіна? На сённяшні дзень у рэспубліцы выраблена адзінаццаць аўтамабіляў «Ака», са скрыпам і грукатам выпускаюцца «Таўрыі», у красавіку наступнага года з'явіцца першы «Форд». Як паведаміў намеснік дырэктара Гродзенскага завода карданных валоў Аляксандр Саланец, масавай вытворчасці аўтамабіляў «Ака» ўжо не плануецца. Хоць цана машыны даволі прывабная (апошняя «Ака» пайшла за 4,5 тысячы долараў), скласці канкурэнцыю той жа «Таўрыі» яна не можа. Аляксандр Лявонцьевіч асцярожна паведаміў, што планы супрацоўніцтва з замежнымі вытворцамі ёсць, але аб іх рэальнасці казаць рана і наўрад ці сёння варта. Тым больш, што патрэбы Беларусі здольны задаволіць «Форд».

Па словах Аляксея Ваганава, генеральнага дырэктара СП «Лада ОМС» (аднаго з заснавальнікаў прадпрыемства «Форд Юніон», які і будзе вырабляць аўтамабілі), у Беларусі будзе прадавацца кожны пяты «Форд». Да 2000 года ж плануецца давесці вытворчасць да 100 тысяч машын у год. Такім чынам, пакупнікамі прадукцыі беларуска-амерыканскага прадпрыемства змогуць стаць штогод 20 тысяч жыхароў рэспублікі. Праўда, дакладную цану сёння ніхто не называе. Магчыма, неаднаразовае сцвярджэнне спадара Ваганава, што «Форд» стане народным аўтамабілем, бо будзе даступны сярэдняму пакупніку, нарадзіла чуткі аб кошце 10—13 тысяч долараў. Прынамсі, вызначыць сёння цану яшчэ неіснуючага аўтамабіля — справа безнадзейная.

Аб фіксіраванай цане могуць сказаць толькі вытворцы «Таўрыі». «Таўрыя» павінна каштаваць 4 тысячы долараў і не на цэнт больш. Яшчэ месяц назад начальнік 124-га аўтарамонтнага завода Міністэрства абароны Міхаіл Журневіч паведаміў: «Цану трымаем ва ўрон усяму». Трымаць яе плануюць да канца года. Яно і зразумела: заказчык гатых аўтамабіляў — Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва, якое павінна забяспечыць каля 10 тысяч інвалідаў бясплатным аўтамабілем. Казаць пра заўтрашні дзень спадар Журневіч не спяшаецца, бо і сёння хапае праблем. «Таўрыя» на 95 працэнтаў збіраецца з камплектуючых, што паступаюць з Запарожжа. На рахунак прадпрыемства пералічана зараз 6 мільярдаў беларускіх рублёў, якія немагчыма пераканверсаваць у валюту, каб аплаціць пастаўку рухавікоў і кузаваў украінскім партнёрам. Завод вырабляе машыны з ручным кіраваннем. Планаў выпуску «Таўрый», якія можна было б прапанаваць на рынак, прадпрыемства не мае: мытныя пошліны і падаткі на ўвозімыя з суседняй дзяржавы камплектуючыя зробяць кошт гэтай машыны неапраўдана высокім. А шкада, бо попыт на «Таўрыю» ёсць.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# ПАЛАЖЭННЕ аб выбарах членаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Абласныя, Мінскі гарадскі выканаўчыя камітэты прадстаўляюць Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь справаздачу аб расходаванні выдзеленых з бюджэту сродкаў на выбары не пазней шасці месяцаў з дня выбрання членаў Савета Рэспублікі. Копіі ўказанай справаздачы ў гэты ж тэрмін прадстаўляюцца Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў і Міністэрству фінансаў Рэспублікі Беларусь.

Прадпрыемствы, установы, арганізацыі, дзяржаўныя і грамадскія органы прадастаўляюць для падрыхтоўкі і правядзення выбараў членаў Савета Рэспублікі памяшканні, абсталяванне і транспартныя сродкі.

Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі бясплатна абнародуюць матэрыялы, прадстаўленыя адпаведнымі мясцовымі Саветамі дэпутатаў і сходамі дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў па выбарах членаў Савета Рэспублікі ад абласцей і горада Мінска.

Забараняецца які-небудзь прамы ці ўскосны ўдзел замежных арганізацый і замежных грамадзян у фінансаванні і іншай матэрыяльнай дапамозе выбарчай кампаніі.

**Артыкул 10. Адказнасць за парушэнне заканадаўства аб выбарах членаў Савета Рэспублікі**

Асобы, якія перашкаджаюць шляхам прымусу, падману, пагроз або іншым спосабам свабоднаму ажыццяўленню дэпутатамі мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню права выбіраць членаў Савета Рэспублікі і быць выбранымі членамі Савета Рэспублікі, весці перадвыбарную агітацыю, перашкаджаюць рабоце сумесных пасяджэнняў прэзідыумаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню і адпаведных выканаўчых камітэтаў па вылучэнню кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі, а таксама рабоце сходаў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню па выбарах членаў Савета Рэспублікі ад абласцей і горада Мінска, або службовыя асобы дзяржаўных і грамадскіх органаў і іншыя асобы, якія зрабілі падлог выбарных дакументаў, загадзя няправільны падлік галасоў, парушылі тайну галасавання або дапусцілі іншыя парушэнні заканадаўства, нясуць устаноўленую заканадаўствам адказнасць. Да адказнасці прыцягваюцца таксама асобы, якія апублікавалі ці іншым спосабам распаўсюдзілі ілжывыя звесткі, што ганьбяць кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі, публічна заклікаюць да байкатавання выбараў.

Заявы аб парушэннях заканадаўства аб выбарах членаў Савета Рэспублікі, якія паступілі ў дзяржаўныя і грамадскія органы, павінны разглядацца ў трохдзённы тэрмін, а паступіўшыя ў дзень выбараў — неадкладна.

## II. ПАРАДАК НАЗНАЧЭННЯ ВЫБАРАЎ ЧЛЕНАЎ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ

**Артыкул 11. Назначэнне выбараў членаў Савета Рэспублікі**

Выбары членаў Савета Рэспублікі назначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь не пазней чым за тры месяцы да заканчэння тэрміну паўнамоцтваў Савета Рэспублікі.

Паведамленне аб дні выбараў абнародуецца ў сродках масавай інфармацыі не пазней чым за тры дні пасля назначэння выбараў.

## III. ВЫЛУЧЭННЕ КАНДЫДАТАЎ У ЧЛЕНЫ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ

**Артыкул 12. Вылучэнне кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі**

Вылучэнне кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі ажыццяўляецца на сумесных пасяджэннях прэзідыумаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню і адпаведных выканаўчых камітэтаў.

Тэрміны вылучэння кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі вызначаюцца Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Кандыдатуры ў члены Савета Рэспублікі прапануюцца дэпутатамі адпаведнага мясцовага Савета дэпутатаў і членамі адпаведнага выканаўчага камітэта.

Кандыдатам у члены Савета Рэспублікі можа вылучацца грамадзянін, які жыве на тэрыторыі адпаведнай вобласці (горада Мінска) не менш чым пяць гадоў.

Сумеснае пасяджэнне прэзідыума мясцовага Савета дэпутатаў базавага ўзроўню і адпаведнага выканаўчага камітэта па вылучэнню кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі лічыцца правамоцным, калі ў ім прынялі ўдзел не менш за дзве трэці адпаведна ад саставу прэзідыума і выканаўчага камітэта.

Рашэнне сумеснага пасяджэння прэзідыума мясцовага Савета дэпутатаў базавага ўзроўню (горада Мінска) і адпаведнага выканаўчага камітэта аб вылучэнні кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі прымаецца шляхам кансенсусу.

Прэзідыум мясцовага Савета дэпутатаў базавага ўзроўню сумесна з адпаведным выканаўчым камітэтам мае права вылучыць толькі аднаго кандыдата ў члены Савета Рэспублікі.

Прэзідыум Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў і Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт вылучаюць восем кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі.

**Артыкул 13. Парадак афармлення рашэнняў аб вылучэнні кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі**

Сумеснае рашэнне прэзідыума мясцовага Савета дэпутатаў базавага ўзроўню (горада Мінска) і адпаведнага выканаўчага камітэта аб вылучэнні кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі падпісваецца старшынямі мясцовага Савета дэпутатаў і адпаведнага выканаўчага камітэта і не пазней чым у двухдзённы тэрмін перадаецца ў Цэнтральную камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

У Цэнтральную камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў у трохдзённы тэрмін з дня вылучэння прадстаўляецца заява кандыдата ў члены Савета Рэспублікі аб яго згодзе балаціравацца ў састаў Савета Рэспублікі з указаннем часу пражывання на тэрыторыі вобласці (горада Мінска), ад якой ён вылучаецца кандыдатам.

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў у двухдзённы тэрмін правярае матэрыялы, якія паступілі ад прэзідыумаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню (горада Мінска) і адпаведных выканаўчых камітэтаў, і дае заключэнне аб правамоцнасці вылучэння кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі ад абласцей і горада Мінска.

## IV. ПАРАДАК ПРАВЯДЗЕННЯ СХОДАЎ ДЭПУТАТАЎ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ ДЭПУТАТАЎ БАЗАВАГА ЎЗРОЎНЮ АД АБЛАСЦЕЙ І ГОРАДА МІНСКА

**Артыкул 14. Сходы дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню ад абласцей і горада Мінска**

Сходы дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў ад абласцей і горада Мінска праводзяцца не пазней чым у дзесяцідзённы тэрмін з дня завяршэння вылучэння кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі прэзідыумамі мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню (горада Мінска) і адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі.

Сход дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню ад абласцей і горада Мінска лічыцца правамоцным, калі ў ім прымае ўдзел больш за палову ад агульнай колькасці дэпутатаў, выбраных у мясцовыя Саветы дэпутатаў базавага ўзроўню і горада Мінска. Пры гэтым у сходах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню ад абласцей павінны прымаць удзел не менш за адну чацвёртую дэпутатаў ад кожнага мясцовага Савета дэпутатаў базавага ўзроўню.

**Артыкул 15. Правядзенне сходаў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню**

Сход дэпутатаў мясцовых Саветаў базавага ўзроўню адкрываецца старэйшым па ўзросту дэпутатам мясцовага Савета дэпутатаў базавага ўзроўню (горада Мінска).

Для забеспячэння работы сходу выбіраецца прэзідыум, сакратарыят, мандатная і падліковая камісіі.

Сход па прадстаўленню мандатнай камісіі прымае рашэнне аб прызнанні паўнамоцтваў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню (горада Мінска) і сходу ў цэлым, якія ўдзельнічаюць у пасяджэнні.

На сходзе таксама заслухоўваецца заключэнне Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў аб правамоцнасці вылучэння кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі ад кожнай вобласці і горада Мінска.

Рашэнні сходу дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню (горада Мінска) па пытаннях яго вядзення прымаюцца большасцю галасоў ад колькасці прысутных.

**Артыкул 16. Абмеркаванне кандыдатур у члены Савета Рэспублікі**

На пасяджэннях сходаў дэпутатаў мясцовых Саветаў базавага ўзроўню праводзіцца абмеркаванне кандыдатур у члены Савета Рэспублікі.

Кандыдаты для выбрання ў члены Савета Рэспублікі выступаюць перад сходам з праграмамі будучай дзейнасці.

Кожны дэпутат, які ўдзельнічае ў рабоце сходу, мае права задаваць пытанні кандыдату ў члены Савета Рэспублікі, выказваць сваю думку, агітаваць «за» або «супраць» вылучанай кандыдатуры. На сходах не дапускаецца вылучэнне іншых кандыдатур, акрамя кандыдатур, прапанаваных адпаведнымі прэзідыумамі мясцовых Саветаў дэпутатаў і выканаўчымі камітэтамі.

Абмеркаванне кандыдатур спыняецца па рашэнню сходу, прынятаму большасцю галасоў дэпутатаў, якія прысутнічаюць на сходзе.

Сход дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню зацвярджае папярэдні спіс кандыдатур для выбрання членамі Савета Рэспублікі.

**Артыкул 17. Арганізацыя галасавання па выбарах членаў Савета Рэспублікі**

Для арганізацыі тайнага галасавання і вызначэння яго вынікаў сход выбірае са свайго саставу падліковую камісію. У падліковую камісію не могуць уваходзіць асобы, чые кандыдатуры вылучаны для выбрання членамі Савета Рэспублікі.

Падліковая камісія выбірае са свайго саставу старшыню і сакратара камісіі. Рашэнні падліковай камісіі прымаюцца большасцю галасоў членаў камісіі.

Бюлетэні для тайнага галасавання выпускаюцца падліковай камісіяй па ўстаноўленай ёю форме ў пэўнай колькасці. У бюлетэнь для галасавання ў алфавітным парадку ўносяцца кандыдатуры ў састаў Савета Рэспублікі ад дадзенай вобласці або горада Мінска.

Час і месца галасавання, парадак яго правядзення ўстанаўліваюцца падліковай камісіяй і аб'яўляюцца яе старшынёй.

Выдача бюлетэняў праводзіцца на працягу трох гадзін пасля аб'яўлення часу пачатку галасавання.

Кожнаму дэпутату, які прымае ўдзел у рабоце сходу, выдаецца адзін бюлетэнь для тайнага галасавання.

Бюлетэні выдаюцца членамі падліковай камісіі ў адпаведнасці са спісам дэпутатаў, якія прымаюць удзел у рабоце сходу, пры прад'яўленні дэпутатам дакумента, які пацвярджае яго асобу.

**Артыкул 18. Правядзенне галасавання па выбарах членаў Савета Рэспублікі**

Кожны ўдзельнік сходу галасуе асабіста, галасаванне за іншых асоб не дапускаецца.

Запаўненне бюлетэняў праводзіцца ў кабіне для тайнага галасавання шляхам выкрэслівання ў бюлетэні прозвішча кандыдата, супраць якога ён галасуе.

У выпадку, калі колькасць вылучаных у члены Савета Рэспублікі кандыдатур перавышае колькасць месцаў ад вобласці, прадугледжаную артыкулам 91 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, сходам дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню праводзіцца папярэдняе галасаванне па ўключэнню васьмі кандыдатур у спіс для тайнага галасавання. Папярэдняе галасаванне праводзіцца ў парадку, які ўстанаўлівае сход.

У бюлетэні для тайнага галасавання ўключаюцца кандыдатуры, якія набралі большасць галасоў у параўнанні з іншымі кандыдатурамі.

**Артыкул 19. Падвядзенне вынікаў галасавання па выбарах членаў Савета Рэспублікі**

Па выніках тайнага галасавання падліковая камісія складае пратакол, які падпісваецца ўсімі членамі падліковай камісіі.

Па дакладу падліковай камісіі сход адкрытым галасаваннем прымае рашэнне аб зацвярджэнні тайнага галасавання.

Выбраным членам Савета Рэспублікі лічыцца кандыдат, які атрымаў па выніках галасавання больш за палову галасоў ад колькасці прыняўшых удзел у галасаванні дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню (горада Мінска).

Пратаколы падліковых камісій і іншыя матэрыялы па выбарах членаў Савета Рэспублікі ў двухдзённы тэрмін перадаюцца ў Цэнтральную камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

**Артыкул 20. Апублікаванне вынікаў выбараў членаў Савета Рэспублікі**

Паведамленне аб выніках выбараў членаў Савета Рэспублікі і спіс выбраных членаў Савета Рэспублікі з указаннем прозвішча, імя, імя па бацьку, займаемай пасады (занятку), месца работы і жыхарства Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў накіроўвае для апублікавання не пазней чым у трохдзённы тэрмін пасля галасавання.

**Артыкул 21. Пасведчанне і нагрудны знак члена Савета Рэспублікі**

Пасля апублікавання вынікаў галасавання па выбарах у члены Савета Рэспублікі Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў выдае кожнаму члену Савета Рэспублікі пасведчанне аб яго выбранні.

Члену Савета Рэспублікі выдаецца таксама нагрудны знак «Член Савета Рэспублікі».

## V. ПАЎТОРНАЕ ГАЛАСАВАННЕ. ПАЎТОРНЫЯ ВЫБАРЫ

**Артыкул 22. Паўторнае галасаванне**

Калі ў выніку галасавання не будзе выбрана адна або некалькі з васьмі кандыдатур, уключаных у спіс для тайнага галасавання, праводзіцца паўторнае галасаванне.

У спіс для паўторнага тайнага галасавання ўключаецца неабходная колькасць кандыдатур у члены Савета Рэспублікі, якія атрымалі ў адпаведнасці з вынікамі папярэдняга галасавання большую ў параўнанні з астатнімі кандыдатурамі колькасць галасоў.

Паўторнае галасаванне праводзіцца ў парадку, устаноўленым артыкуламі 17—19 гэтага Палажэння.

**Артыкул 23. Паўторныя выбары**

Калі ў выніку паўторнага галасавання ў састаў Савета Рэспублікі ад абласцей і горада Мінска не будзе выбрана ўстаноўленая Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь колькасць членаў Савета Рэспублікі, у месячны тэрмін з дня правядзення паўторнага галасавання праводзяцца паўторныя выбары.

Паўторныя выбары праводзяцца ў адпаведнасці з гэтым Палажэннем.

# ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ІГАР РАДЗІВОНАЎ СТАЎ ПЕРШЫМ ЦЫВІЛЬНЫМ МІНІСТРАМ АБАРОНЫ РАСІІ

Учора ў Маскве прайшло пасяджэнне Савета абароны Расіі. У самым пачатку пасяджэння, якое доўжылася больш за 4 гадзіны, кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Анатоль Чубайс прадставіў удзельнікам Ігара Радзівонава як цывільнага міністра абароны. Барыс Ельцын падпісаў загад аб звальненні Ігара Радзівонава з вайсковай службы па дасягненню гранічнага ўзросту. Кіраўнік урада Расіі Віктар Чарнамырдзін заявіў на пасяджэнні Савета абароны, што назначэнне Ігара Радзівонава першым цывільным міністрам абароны Расіі азначае павышэнне ролі асобы міністра ў дзяржаве. Кіраўнік Кабінета Міністраў высока ацаніў прафесіянальныя і асабісныя якасці Радзівонава і адзначыў, што ён карыстаецца вялікай павагай ва Узброеных Сілах.

### ТАДЖЫКІСТАН: ЗРОБЛЕНЫ ПЕРШЫ КРОК ДА ПРЫМІРЭННЯ

Прэзідэнт Таджыкістана Рахмонаў і лідэр аб'яднанай таджыкскай апазіцыі Нуры падпісалі пратакол аб спыненні ваенных дзеянняў, які ўступіў у сілу з 0 гадзін 12 снежня. Як паведаміла ІТАР-ТАСС, пратакол быў парафіраваны ў ходзе неафіцыяльнай сустрэчы, якая адбылася ўчора на поўначы Афганістана. Адпаведнае пагадненне будзе падпісана 19 снежня ў Маскве на сустрэчы прэзідэнта Таджыкістана з лідэрам аб'яднанай апазіцыі.

### ДУСТУМ АДПОМСЦІЎ ЗА ПАРАЖЭННЕ

Авіяцыя антыталібаўскай кааліцыі падвергла бамбардзіроўцы населены пункт Іхталіфр, што размешчаны на поўначы ад Кабула. Ёсць ахвяры. Налёт быў учынены пасля таго, як сілы генерала Дустума, якія ўваходзяць у кааліцыю, пацярпелі паражэнне ў баях з талібамі. Пра колькасць самалётаў, якія ўдзельнічалі ў налёце, не паведамлялася.

### ІЗРАІЛЬСКАЯ АВІЯЦЫЯ БАМБІЛА ПОЎДЗЕНЬ ЛІВАНА

Ізраільская авіяцыя нанесла ракетны ўдар па паўднёвых раёнах Лівана. Верталёты ізраільскіх ВПС абстралялі мясцовасць, дзе размешчаны асноўныя базы баевікоў групоўкі «Хэзбалах». Тры ізраільскія знішчальнікі-бамбардзіроўшчыкі выпусцілі некалькі ракет па населеных пунктах. Паведамленняў пра ахвяры і разбурэнні не паступала.

### АЛЖЫР ЗАХЛІСНУЛА ХВАЛЯ ТЭРАРЫЗМУ

Новы тэракт быў учынены ўчора ў прыгарадзе алжырскага райцэнтра Пліда. Ісламісты спынілі рэйсавы аўтобус і расстралялі 20 чалавек. Васьмі пасажырам удалося выжыць. Яны знаходзяцца ў бальніцы і іх жыццё ў бяспецы. За апошні тыдзень у раёне Пліды забіта каля 70 чалавек.

### У ІСПАНІІ БАСТУЮЦЬ ДЗЯРЖСЛУЖАЧЫЯ

Учора ў Іспаніі праходзіла ўсеагульная 24-гадзінная забастоўка дзяржаўных служачых у знак пратэсту супраць замарожвання зарплаты. У выніку забастоўкі была спынена работа пошты і тэлеграфа, судовых устаноў, аэрапортаў. Не ў поўнай меры працавалі бальніцы, грамадскі транспарт, школы і універсітэты.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## НАМ БЫ ІХ КЛОПАТЫ...

750 жыхароў невялікага дацкага гарадка Санберборг нечакана атрымалі па пошце 75 тысяч крон (прыкладна 13 тысяч долараў). Акрамя купюры вартасцю 100 крон, кожны атрымальнік дзіўнага падарунка знаходзіў у канверце пасланне «спонсара», зробленае асабіста ім. У ім кожнаму прапаноўвалася распарадзіцца гэтай сумай выключна па-свойму, без усякай агляркі на магчымыя мэты аўтара незвычайнай акцыі.

**ІТАР-ТАСС.**

# «ПРЫНЯТАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ ПАТРАБУЕ АЖЫЦЦЯЎЛЕННЯ МНОГІХ КАРДЫНАЛЬНЫХ ПЕРАЎТВАРЭННЯЎ»

**Аб гэтым заявіў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь доктар юрыдычных навук прафесар Аляксандр АБРАМОВІЧ.**

Ён, у прыватнасці, падкрэсліў, што закладзена аснова для ажыццяўлення рэформы сістэмы права і, перш за ўсё, удасканалення прававога рэгулявання эканамічных адносінаў. Цяпер ствараюцца прававыя перадумовы для рэфарміравання эканомікі. У адпаведнасці з адобранай народам Канстытуцыяй будзе прыняты цэлы шэраг новых асноватворных дакументаў, звязаных, у прыватнасці, з забеспячэннем развіцця таварна-грашовых адносінаў, паскораным фарміраваннем рынкавых падыходаў, ажыццяўленнем кардынальных пераўтварэнняў, неабходных для забеспячэння эфектыўнасці вытворчасці. Несумненна, гэтым магістральным шляхам, які ўжо прайшлі многія развітыя краіны, Беларусь пойдзе з улікам нацыянальнай спецыфікі, асаблівасцей структуры гаспадаркі, якая склалася гістарычна.

На думку Аляксандра Абрамовіча, дзеючая Канстытуцыя 1994 года ў новай рэдакцыі патрабуе ажыццяўлення кардынальных пераўтварэнняў і дзяржаўнага апарату, перш за ўсё, яго вышэйшых звенаў. У адпаведнасці з новым Асноўным законам утворана і ўжо дзейнічае ніжняя палата парламента — Палата прадстаўнікоў. На парадку дня — фарміраванне верхняй палаты Нацыянальнага сходу — Савета рэспублікі. Агульныя зыходныя пасылкі сфармуляваны ў артыкуле 91 Канстытуцыі, дзе гаворыцца, што Савет з'яўляецца палатай тэрытарыяльнага прадстаўніцтва і што ў яго выбіраецца пэўная колькасць асоб ад кожнай вобласці і ад Мінска. «Нечарговыя выбары неабходна праводзіць даволі хутка. Адпаведна, патрабуецца спецыяльны нарматыўны акт, які б рэгуляваў гэтыя пытанні. У той жа час прыняцце закона аб парадку выбараў у верхнюю палату цяпер не з'яўляецца магчымым, бо ў заканатворчым працэсе ўдзельнічае і Савет рэспублікі — менавіта да яго паступаюць законы, якія прымае ніжняя палата. Паколькі Савета няма, парадак правядзення выбараў у яго на аснове канстытуцыйных нормаў будзе дэталёва вызначаны ў нарматыўным акце, які выдасць Прэзідэнт. Думаю, што к канцу сёлетняга года гэта складанае пытанне вырашыцца», — сказаў Аляксандр Міхайлавіч.

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта лічыць, што даволі няпростая задача будзе вырашацца і пры фарміраванні новага ўрада, паўнамоцтвы якога паводле новай Канстытуцыі істотна адрозніваюцца ад паўнамоцтваў Кабінета Міністраў. Узрастае аб'ём функцый, якія вырашае Савет Міністраў, яго адказнасць і самастойнасць. Вядома ж, многае будзе залежаць ад таго, хто стане кіраўніком, хто зможа належным чынам рэарганізаваць работу і павысіць прэстыж органа, які ўзначальвае ўсё дзяржаўнае кіраванне. Паколькі пытанне даволі складанае, 5 снежня быў выдадзены ўказ Прэзідэнта, у адпаведнасці з якім функцыі Савета Міністраў часова выконвае Кабінет Міністраў. Гэта звязана з тым, што толькі прэм'ер-міністр можа ўносіць прэзідэнту прапановы па структуры ўрада і яго персаналіях.

«Адначасова трэба выдаць цэлую серыю прэзідэнцкіх указаў, звязаных са стварэннем Камітэта дзяржаўнага кантролю, а таксама з назначэннем вышэйшых службовых асоб. У Канстытуцыі ёсць пералік высокапастаўленых кіраўнікоў, назначэнне якіх адносіцца да кампетэнцыі Прэзідэнта і патрабуе прадстаўлення ў будучы Савет рэспублікі на ўзгадненне», — сказаў Аляксандр Абрамовіч. На яго думку, гэта тыя першачарговыя мерапрыемствы, якія даволі хутка будуць ажыццёўлены ў краіне, бо вакуум улады адмоўна адбіваецца на нармальным функцыянаванні дзяржаўнага механізма.

Ёсць і іншыя актуальныя напрамкі дзейнасці. «Усе дзяржструктуры, кіраўнікі якіх назначаюцца Прэзідэнтам, павінны дзейнічаць на падставе адпаведных законаў. Таму прыняцце Канстытуцыі ставіць пытанне аб змяненнях і дапаўненнях у дзеючае заканадаўства, якое вызначае прававы статус гэтых структур, ці ўвогуле аб распрацоўцы новых законаў. Я лічу, што заканадаўчая ўлада павінна сканцэнтраваць сваю ўвагу на хутчэйшым прыняцці новага Грамадзянскага кодэкса, паколькі ён дасць магчымасць пачаць падрыхтоўку вялікага пакета эканамічных законаў і зводных нарматыўных актаў», — адзначыў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта.

З пункту гледжання Аляксандра Абрамовіча, прыняцце новай рэдакцыі Канстытуцыі стварае важкія перадумовы стабільнасці ў грамадстве, больш дакладнага вызначэння эканамічнага і палітычнага курсаў. «Канстытуцыя, за якую на рэспубліканскім рэферэндуме прагаласаваў народ, з'яўляецца далейшым крокам наперад на шляху размежавання функцый і паўнамоцтваў паміж органамі дзяржаўнай улады, больш эфектыўнага функцыянавання яе галін, што, безумоўна, здольна забяспечыць належны рух наперад нашага грамадства», — сказаў ён.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

## Уладзімір ГАНЧАРЭНКА:

# «ТЭЛЕФАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСІ ІДЗЕ ВЕЛЬМІ ІНТЭНСІЎНА»

***Сёння́шні дзень немагчыма ўявіць без тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі, без радыё і тэлебачання... Што нас тут чакае заўтра? У «Звязды» ёсць дамоўленасць, што на многія пытанні газеты і чытачоў адкажуць самыя розныя прадстаўнікі Міністэрства сувязі і інфарматыкі, іх падначаленыя, словам, людзі, дзякуючы якім мы своечасова атрымліваем пісьмы нават з самых далёкіх куточкаў свету, дзякуючы якім маем магчымасць пачуць голас блізкага чалавека, знаёмага, дзякуючы якім у наш дом прыходзяць свежыя нумары газет і часопісаў... Але ўсе гэтыя сустрэчы і размовы — яшчэ наперадзе. Сачыце за старонкамі «Звязды». Сёння́шні наш суразмоўца — міністр сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь Уладзімір ГАНЧАРЭНКА. Мы змяшчаем яго адказы на пытанні «прамой лініі», якую «Звязда» праводзіла для сваіх чытачоў.***



**— Уладзімір Іванавіч, з гарадскога пасёлка Свіслач Гродзенскай вобласці вас турбуюць. Пятрова Марыя Антонаўна. Вельмі дрэнна паказвае тэлебачанне праграму расійскага канала. Не ведаем, што і рабіць. І гэта не ў адной мяне. Словам, не ў тэлевізары прычына. Дрэнна ва ўсіх знаёмых, суседзяў паказвае...**

— Зразумелае ваша пытанне, Марыя Антонаўна. Мы ўжо неаднойчы сутыкаліся з гэтай праблемай. Але справа тут вось у чым. Гарадскі пасёлак Свіслач знаходзіцца за мяжою зоны нарміраванага прыёму праграмы Грамадскага расійскага тэлебачання ад перадатчыка 12-га тэлевізійнага канала Слонімскай радыётэлевізійнай перадаючай станцыі. Здавальняючы прыём у Свіслачы расійскай праграмы ад гэтага перадатчыка можа быць ажыццёўлены пры выкарыстанні высокаэфектыўнай антэны.

Між іншым, каб ведалі вы, Марыя Антонаўна, і іншыя нашы чытачы, пытанні арганізацыі ў Гродзенскай вобласці рамонту, устаноўкі і абслугоўвання прыёмных тэлевізійных антэн знаходзяцца ў кампетэнцыі Гродзенскага абласнога тэхнагандлёвага цэнтра «Гарант» і яго падраздзяленняў на месцах.

І яшчэ вось што. За рэкамендацыяй па выбару і ўстаноўцы антэны раім вам непасрэдна звярнуцца ў Свіслацкі ўчастак тэхнагандлёвага цэнтра «Гарант». Упэўнены, што ў пэўнай ступені там вам дапамогуць. Хаця, як ужо гаварылася, праблема далёка не ў адной антэне.

> **Сёлета па рэспубліцы будзе ўведзена 200 тысяч новых тэлефонных нумароў. На наступны, 1997 год, запланавана ўвядзенне яшчэ 250 тысяч нумароў.**
>
> **Толькі ў Мінску жадаючых устанавіць тэлефон — 56 тысяч, з іх 8 тысяч ільготнікаў.**

**— Уладзімір Іванавіч, вас турбуе Белісава Вера Захараўна. Жыву ў Мінску па вуліцы Някрасава... Ужо неаднойчы, звярталася да вашых падначаленых. З мяне няправільна запатрабавалі тэлефонную плату. Я адмовілася плаціць за тыя размовы, якіх я не вяла. У выніку адключылі тэлефон...**

— Вера Захараўна, адчуваю, што пытанне ў вас даволі складанае. Таму лепей разбірацца канкрэтна. Звярніцеся да нас пісьмова. Альбо прыходзьце непасрэдна на прыём.

*Ужо пасля «прамой лініі» спадарыня Белісава звярнулася пісьмова ў рэдакцыю. Пытанне Веры Захараўны мы пераадрасавалі ў Міністэрства сувязі і інфарматыкі. За подпісам Уладзіміра Іванавіча Ганчарэнкі атрыманы наступны адказ: «... Паведамляем, што па неаднаразовых зваротах Белісавай В. З. па пытанню правільнасці налічэння пагадзіннай аплаты тэлефонных размоў з № 231-14-09 спецыялістамі Мінскай ГТС і Рэспубліканскага інфармацыйна-вылічальнага цэнтра (РІВЦ) у перыяд з лістапада 1995 па красавік 1996 года ажыццяўляліся поўныя праверкі станцыйнага абсталявання, абаненцкай лініі і апаратуры пагадзіннага ўліку (АПУС). У выніку праверак пашкоджанняў і збояў станцыйнага абсталявання і апаратуры АПУС не выяўлена, параметры абаненцкай лініі ў норме, пабочных падключэнняў не выяўлена.*

*Пра вынікі праверак і правільнасць налічэння сум аплаты мясцовых тэлефонных размоў Белісавай В. З. паведамлялася ў пісьмовых і вусных адказах Мінскай ГТС, РІВЦ і РА «Белтэлекома».*

*У адпаведнасці з Правіламі прадастаўлення паслуг мясцовымі тэлефоннымі сеткамі (п. 5.3) аплата за карыстанне тэлефонам уносіцца за любы тэрмін, але не меней як за месяц. Пры неаплаце доўгу за прайшоўшы месяц тэлефон адключаецца. Тэлефон можа быць уключаны толькі пасля таго, як будзе выплачана запазычанасць і аплачана новае ўключэнне тэлефона згодна з дзеючым тарыфам. Калі на працягу месяца з моманту выключэння тэлефона аплата не паступае, абанемент зачыняецца. І, згодна з п. 2.2. дамовы аб прадастаўленні паслуг сувязі, заключанай паміж Мінскай ГТС і Белісавай В. З., абанент абавязваецца своечасова ўносіць аплату за карыстанне тэлефонам. Прадпрыемства сувязі мае права спыніць дзеянне гэтай дамовы пры парушэнні абанентам п. 2.2. памянёнай дамовы.*

*Паколькі за перыяд з верасня 1995-га па май 1996 года Белісавай В. З. не ўносілася абнементная і пагадзінная плата, тэлефон № 231-14-09 быў адключаны. Тэлефон Белісавай В. З. можа быць уключаны толькі пры пагашэнні запазычанасці і аплаты за новае ўключэнне тэлефона.*

*На аснове вышэйвыкладзенага ўсе тэлефонныя размовы, якія вяліся па тэлефоне Белісавай В. З., сапраўдныя, і рахункі падлягаюць аплаце.*

*Пры разглядзе дадзенага пытання парушэнняў Правілаў прадастаўлення паслуг мясцовымі тэлефоннымі сеткамі з боку Мінскай ГТС і РІВЦ не ўстаноўлена».*

**— Уладзімір Іванавіч, турбую вас хаця і па канкрэтных пытаннях, але зусім не дзеля таго, каб вы разбіраліся непасрэдна ў маім выпадку. Справа не ўва мне...**

— Слухаю вас. Што хвалюе?

**— Напрыклад, а так было і на самай справе, пазваніў знаёмым у іншы горад. На другім канцы праваду сказалі, што чалавека, з якім я хацеў бы пагаварыць, няма. І што ў выніку? За секундную размову прыходзіць рахунак як за некалькі хвілін. Чаму так здараецца, Уладзімір Іванавіч? Падобныя прыклады, між іншым, чуў ад многіх.**

— Шкада, што вы ўсё ж не называеце свой дакладны адрас ці свой тэлефон. Агульныя размовы весці прасцей і безадказней. А хацелася б разбірацца, што мы і робім пасля зваротаў грамадзян, з кожным канкрэтным выпадкам. І ўсё ж адкажу вам. Ведаеце, падлік часу размоў — справа тэхнікі. Чалавек не ўмешваецца ў гэтую справу. Больш таго — не можа, не маючы на тое дазволу, умяшацца. Усё ў нас апячатана, апламбавана. Памылкі не дапускаюцца. Не верыце — запрашаем вас на экскурсію. Нешта падобнае мы ўжо арганізоўвалі для журналістаў. І пасля ні ў кога ніякіх сумненняў не засталося.

> **З 1992 года Беларусі адкрыта крэдытная лінія Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця. Памер — 38,8 мільёна долараў ЗША. Ужо пабудаваны тэлексная станцыя, станцыя пакетнай камутацыі «БелПак», пракладзена 1200 кіламетраў валаконна-аптычнай лініі сувязі. Сёлета ўведзена ў эксплуатацыю першая чарга «Тэлепорта».**

**— Уладзімір Іванавіч, з Баранавіч вас турбуюць. Жыву ў прыватным сектары. Нядаўна правёў тэлефон. Акрамя вызначанай для ўсіх платы ўнёс яшчэ паўмільёна па асобнаму каштарысу, якога мне, між іншым, ніхто не паказваў...**

— Наколькі я зразумеў, да вашага дома трэба было правесці дадатковы кабель. Відавочна, зыходзячы з гэтага, вам і налічылі грошы звыш агульнага, звычайнага кошту за ўстаноўку тэлефона. Але ж у такім выпадку аплата павінна ажыццяўляцца згодна са складзеным спецыяльным каштарысам. У ёй указваюцца характар, аб'ём работы, затрачаныя дадаткова матэрыялы і гэтак далей. Але вам як кліенту, як заказчыку павінны былі паказаць, не маглі не паказаць каштарыс. Іначай, без вашага ўласнага подпісу, каштарыс несапраўдны, а значыць — аплата не праводзіцца.

**— Уладзімір Іванавіч, з Мінска вас турбуюць. Вельмі высокі кошт падпіскі на газеты і часопісы. Пры сённяшніх зарплатах і пенсіях многія сацыяльныя групы насельніцтва застаюцца без адной нават газеты...**

— І я згодны з вамі, што высокая падпісная цана. Але што ж рабіць? Што параіце вы асабіста?

**— А мо ёсць магчымасць за кошт зніжэння затрат на дастаўку знізіць і падпісны кошт?**

— Па-першае, цану падпіскі вызначаюць самі рэдакцыі газет і часопісаў. Але, безумоўна, і тут вы правільна гаворыце, яны ўлічваюць нашы, паштовыя, расцэнкі. Дык вось, няўжо вы думаеце, што мы закладваем рэнтабельнасць, велізарны прыбытак, вызначаючы кошт дастаўкі? Калі б так было сапраўды, то ў нас усе работнікі атрымлівалі б прыстойную зарплату. На справе ж усё іначай. У кошт дастаўкі ўваходзяць і зарплата, і выдаткі на транспартныя расходы і г. д. Так і збіраецца вялікая сума, ад якой, на жаль, нікуды не падзецца.

**— Уладзімір Іванавіч, Сідарчук Ігар Барысавіч, Старадарожскі раён. Адкажыце, калі ласка, на такое пытанне. Калі ўсё ж такі ў нас па-нармальнаму будуць вырашаны пытанні тэлефанізацыі?**

— Ігар Барысавіч, а што вы маеце на ўвазе, гаворачы пра тэлефанізацыю? Калі тое, як хутка тэлефон будзе ў кожнай хаце, у кожнай кватэры, то, мусіць, не хутка. Да таго ж далёка не ўсе і жадаюць (некаторыя, зразумела, зыходзячы з матэрыяльных магчымасцей) ставіць тэлефон. Але ж тут не ўсё залежыць непасрэдна ад міністэрства, ад нашых структур. Патрэбы насельніцтва мы задавальняем вельмі інтэнсіўна. Але ж даволі нізкай магутнасці тэлефонныя станцыі. Пераход на больш магутныя станцыі — пытанне часу.

> **За апошнія два гады закуплена абсталявання на суму 16,4 мільёна долараў ЗША. Згодна з ужо падпісаным кантрактам, плануецца ажыццявіць пастаўкі яшчэ на суму 21,3 мільёна долараў ЗША. Усё разам гэта складае каля 220 тысяч новых тэлефонных нумароў.**

**— Вас непакоіць Бяганская з Ліды... Жыву па вуліцы Транспартнай. Пераехала з іншага дома паблізу. Хацела б, пакінуўшы той жа нумар, перавесці і тэлефон...**

— Мы падрабязна запісваем ваша пытанне. Але адкажам, высветліўшы ўсё на месцы.

*Ужо пасля «прамой лініі» Уладзімір Іванавіч Ганчарэнка даў падрабязны адказ па пытанню: «...згодна з дзеючымі Правіламі прадастаўлення паслуг мясцовымі тэлефоннымі сеткамі п. 2.15 пры пераездзе (выпісцы) абанента на новае месца жыхарства ў зоне дзеяння той жа тэлефоннай станцыі, па яго заяве тэлефон, пры наяўнасці свабоднай лініі ў кабелі на момант пераезду, перастаўляецца незалежна ад наяўнасці па дому, у які ён пераехаў, незадаволеных заяў. Пры адсутнасці тэхнічнай магчымасці перастаноўкі тэлефона па новаму адрасу абанента дзейнасць дамовы на прадастаўленне карыстання мясцовай тэлефоннай сувяззю спыняецца, а новая ўстаноўка тэлефона былому абаненту ажыццяўляецца на агульных умовах у парадку чаргі па льготнаму тарыфу.*

*У сувязі з тым, што на момант пераезду па новым месцы жыхарства дом № 3 па вул. Транспартнай быў не кабліраваны, перанесці тэлефон Бяганскай не ўяўлялася магчымым.*

*У гэты час устанавіць тэлефон Бяганскай не ўяўляецца магчымым па прычыне адсутнасці свабодных пар у магістральным кабелі.*

*Заява Бяганскай на ўстаноўку тэлефона зарэгістравана ад 24.07.90 г. у абаненцкім аддзеле Лідскага РУЭС. Чарга па дому 3-я.*

*Пры з'яўленні тэхнічнай магчымасці тэлефон Бяганскай будзе ўстаноўлены ў парадку чаргі з аплатай па льготнаму тарыфу, як былому абаненту, з уводам новай АТС-5, які плануецца ў 1997—1998 гг.*

**— Уладзімір Іванавіч, дапамажыце высветліць, чаму ў нас так дрэнна працуе тэлефон. Мы ж у вёсцы жывём, не ў горадзе — паспрабуй неяк іначай звязацца з бальніцай, напрыклад... З вёскі Заполле вас турбуюць. Хацько маё прозвішча...**

— Абяцаю, што разбяромся. Вёску ніяк нельга крыўдзіць.

*Пасля правядзення «прамой лініі» было наладжана «расследаванне» з выездам на месца. Устаноўлена, што тэлефон працуе добра і прэтэнзій у абанента па рабоце тэлефона цяпер ніякіх няма. Заявак на работу тэлефона № 46-6-05 ад Хацько ў бюро рамонту Чэрвенскага РУЭС не паступала. У чым жа тады справа? Аказваецца, у сёлетнім чэрвені на ўчастку Смілавічы — Чэрвень праводзілася замена маральна састарэлага лінейнага абсталявання і вяліся пераключэнні злучальных ліній да АТС Заполле, у сувязі з чым мелі месца перабоі ў рабоце міжстанцыйнай сувязі па АТС Заполле.*

**— Уладзімір Іванавіч, я маю права на тэлефон як ільготнік... Якубоўскі маё прозвішча... Жыву ў вёсцы Дзешчанка Уздзенскага раёна па адрасу: вуліца Будаўнічая, д. 8. Але ніяк не ўстановяць мне тэлефон.**

— У вас — канкрэтнае пытанне. І канкрэтна трэба разбірацца. Дайце нам час...

*Пасля правядзення «прамой лініі» «Звязда» атрымала адказ з Міністэрства сувязі і інфарматыкі: «... на вялікі жаль, цяпер тэлефон Якубоўскаму В. В. устанавіць не ўяўляецца магчымым з-за адсутнасці свабодных пар у размеркавальным кабелі, а таксама з-за неабходнасці выканання работ па будаўніцтву лінейна-кабельных збудаванняў сувязі (пракладка кабеля працягласцю 180 м).*

*Па гэтай прычыне ў вёсцы таксама не задаволена заява інваліда Вялікай Айчыннай вайны, які мае права на пазачарговую ўстаноўку тэлефона.*

*Заява Якубоўскага В. В. на ўстаноўку тэлефона зарэгістравана ў раённым вузле электрасувязі ад 7.02.90 г. Чарга па вёсцы 7-я агульная.*

*Для ўстаноўкі тэлефона Якубоўскаму В. В. неабходна звярнуцца ў РУЭС па пытанню выдачы тэхнічных умоў на тэлефанізацыю дома за кошт уласных сродкаў і выканання іх з улікам стварэння лінейнай магчымасці для задавальнення заявы льготніка...»*

> **У нашай краіне з'явіўся новы від сувязі — транкавы. Што гэта такое? Спецыяльная радыёсувязь для карыстання ўсёй групай людзей, якія займаюцца аднароднай дзейнасцю. Для супрацоўнікаў МУС, для пажарнай аховы, «хуткай дапамогі». Сінхронная сістэма перадач дазваляе на адным канале працаваць 100 абанентам. Можа такі канал працаваць і ў звычайным тэлефонным рэжыме. У Мінску ўжо дзейнічаюць 12 каналаў транкавай сувязі.**

***... Дзесяткі званкоў прагучалі ў час «прамой лініі» з міністрам сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Іванавічам Ганчарэнкам. Па многіх канкрэтных пытаннях ужо прыняты меры. Сувязь — галіна даволі канкрэтная. І гаворачы пра яе праблемы, наўрад ці разумна кіравацца падыходам: сказалі, задалі пытанне — будзе зроблена. На многія задумкі, нязд зейсненыя малыя і вялікія планы ўплываюць і стан эканомікі, і шматаблічныя вытворчыя, народнагаспадарчыя праблемы. Але ж людзі працуюць. І над той жа тэлефанізацыяй, пра якую найболей пыталіся ў міністра, і над іншымі праблемамі. Як, якімі шляхамі збіраюцца ў Міністэрстве сувязі і інфарматыкі радыкальна ўплываць на развіццё галіны, паляпшаць яе працу, пашыраць колькасць паслуг для насельніцтва — пра гэта ў нашых наступных матэрыялах.***

**«Прамую лінію» падрыхтавалі Алесь КАРЛЮКЕВІЧ і Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

**КАНФЛІКТ**

# ЗАХАЦЕЛІ ПАЛІГРАФІСТЫ АКЦЫЯНЕРАМІ ЗВАЦЦА...

Заклікі да рыначнай эканомікі паліграфісты адной са старэйшых у рэспубліцы Аршанскай узбуйненай друкарні ўспрынялі так, нібы яны адрасаваны непасрэдна ім. І, добра падумаўшы, абмеркаваўшы магчымасці таго «рынку» прымяняльна да свайго калектыву, прынялі рашэнне. Агульны сход 31 мая выказаўся за пераўтварэнне друкарні ў акцыянернае таварыства. Заставалася аформіць паперы і стаць у паліграфічнай галіне рэспублікі піянерам новай справы. Але, аказваецца, дарэмна кіпелі страсці ў друкарні, бо ніхто яе «пушчаць» у самастойнае плаванне не збіраецца. Аб чым калектыву і паведамілі ў пісьме з упраўлення па друку Віцебскага аблвыканкома. «Улічваючы, што друкарня з'яўляецца куставым прадпрыемствам па цэнтралізаванаму друкаванню газет бліжэйшых раёнаў з прымяненнем новых тэхналогій, а таксама яе манапольнае стано́вішча ў паўднёва-ўсходняй частцы вобласці, лічым гэту прапанову пакуль заўчаснай». Коратка і ясна.

Калектыў паспрабаваў даказаць, наколькі ўзважаным было яго рашэнне. Па патрабаваннях рабочых склікалі агульны прафсаюзны сход, на які запрасілі намесніка начальніка абласнога ўпраўлення па друку Аляксея Сінюціча. Прадстаўнік упраўлення асабіста пераканаўся ў рашучасці калектыву, аспрэчыць яго намеру не змог, толькі перасцярог, прывёўшы як прыклад сумныя вынікі дзейнасці ўжо існуючых акцыянерных таварыстваў.

Што ж, сапраўды, нават буйныя прадпрыемствы Віцебшчыны зорак з неба не схапілі ў выніку перамены формы ўласнасці. Але па-ранейшаму многія калектывы літаральна саштурхоўваюць з «дзяржаўнай шыі», уключаюць ледзь не сілаю ў праграмы раздзяржаўлення і прыватызацыі. Паліграфістаў — стрымліваюць.

У рэспубліцы ўвогуле ніводнае друкарскае прадпрыемства пакуль формы ўласнасці не змяніла. Можна меркаваць, што гэта палітыка ў галіне. Так яно і ёсць у адносінах да рэспубліканскіх і абласных паліграфічных прадпрыемстваў, але на друкарні ў гарадах і райцэнтрах абмежаванне не распаўсюджваецца. Хутчэй за ўсё таму, што дзяржаве не па кішэні ўтрымліваць у добрым матэрыяльным стане ўсе друкарні. На драбнейшыя бюджэтны «дождж» можа праліцца хіба што ў выглядзе пырскаў. Ужо сёння ў той жа Оршы некалі нядрэнна аснашчаная вытворчасць, дзякуючы настойлівасці дырэктара Рышарда Лясоты адной з першых у рэспубліцы перайшоўшая на афсетны друк, мае патрэбу ў абнаўленні абсталявання.

Тым часам побач ствараюцца невялікія прыватныя друкарні, якія перахопліваюць заказы. Аб якім манапалізме ідзе гаворка ў афіцыяльнай паперы, калі ў Оршы ўжо некалькі фірмаў паспяхова друкуюць візіткі і іншую «хадавую» прадукцыю? Прычым робяць гэта больш якасна, на найноўшым замежным абсталяванні, пазбавіўшы заказаў узбуйненую друкарню.

Пакуль што Аршанская друкарня з году ў год нарошчвае аб'ёмы вытворчасці, забяспечвае неблагую рэнтабельнасць і ўтрымлівае сярэдні заробак сваіх працаўнікоў на адзнацы ў два мільёны рублёў. І ва ўдзельнікаў таго памятнага сходу была свая логіка, калі ў адказ на папярэджанне наконт дрэнна працуючых акцыянерных таварыстваў яны палічылі, што так здарылася па прычыне стварэння таварыстваў на «ляжачых» прадпрыемствах. Даведзеных ледзь не да банкруцтва. З каленяў уставаць з грузам даўгоў і неплацяжоў вельмі цяжка. Вось і калектыў не хацеў бы дайсці да такога стану, перш чым атрымае дазвол на акцыяніраванне. «Пакуль мы яшчэ штосьці сабой уяўляем, — даводзілі рабочыя, — намі могуць зацікавіцца інвестары. Ды і самі хацелі б укласці свае чэкі «Маёмасць», стаць гаспадарамі, а не чакаць, калі нас купіць цалкам хтосьці іншы».

— Я атрымаў чэкі і хацеў бы іх укласці не ў чужое, да таго ж дрэнна працуючае, а ў сваё прадпрыемства, — лічыць капіроўшчык Міхаіл Сухавараў. — Мы просім нас падтрымаць, а не адгаворваць.

— Чыноўнікі, якія не даюць ходу невялікім паліграфічным прадпрыемствам, — яшчэ больш катэгарычны майстар наборнага ўчастка Міхаіл Лугавіер, — тым самым бяруць на сябе смеласць завальваць работу ўсёй паліграфічнай галіны.

— Прававое поле для выканання волі калектыву сёння ёсць. У адпаведнасці з указам Прэзідэнта Рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі, які зацвердзіў праграму раздзяржаўлення, мы можам дабівацца ўключэння друкарні ў пералік аб'ектаў для прыватызацыі ў наступным годзе, — выказаў сваю пазіцыю ў гутарцы з карэспандэнтам дырэктар прадпрыемства. І далей Рышард Паўлавіч развіў сваю думку. — Упэўнены, што друкарні тыпу аршанскай рана ці позна ўвогуле стануць прыватнымі. Пытанне толькі ў тым, хто будзе ўласнікам. Сёння гэта мог бы быць сам калектыў, і ён дастаткова падрыхтаваны для таго, здольны абараняць свае інтарэсы і маральна гатовы ісці на рызыку.

Зноў звярнуліся ў абласное ўпраўленне з хадайніцтвам перагледзець рашэнне аб адмове ў акцыяніраванні. Есць, вядома, іншыя шляхі вырашэння спрэчак, па якіх, магчыма, і давядзецца ісці. Але лепш бы пачынаць у згодзе ды пры падтрымцы. Вядома, прыклад Оршы можа аказацца перaймальным, ці не таму і асцерагаюцца ў абласных вярхах? Праўда, іншыя «вярхі», са сталіцы, свае прапановы, што супадаюць з пазіцыяй аршанскіх друкароў, у Кабінет Міністраў накіравалі. А таму ў вобласці раяць пачакаць. Але ж тым часам абласная праграма на наступны год будзе звярстана, і зноў давядзецца чакаць невядома чаго...

**Вольга СІДАРОВІЧ.**

**По просьбе рэдакцыі свой пункт погляду на праблему выказаў начальнік упраўлення развіцця паліграфіі і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння Дзяржкамітэта РБ па друку Мікалай БРАШКО**

— Нашы прадпрыемствы працуюць рэнтабельна, няма ніводнай стратнай друкарні.

Тыя з іх, што знаходзяцца ў падпарадкаванні рэспубліканскіх органаў кіравання, прыватызацыі пакуль што не падлягаюць. Друкарні, якія ў мясцовым падпарадкаванні (абласныя, гарадскія, міжраённыя), могуць акцыяніравацца, калі на месцы не ўведзены нейкія абмежаванні. У Віцебскай вобласці такіх абмежаванняў, здаецца, няма. Тады, спытаеце вы, што замінае аршанцам?

Трэба мець на ўвазе дзве акалічнасці. У ходзе прыватызацыі кантрольны пакет акцый застанецца ў руках дзяржавы. Скажам, 51 працэнт. Нейкую частку акцый выкупяць члены калектыву. Я не думаю, што гэта будзе вялікая колькасць, і вось чаму. Паліграфія — галіна капіталаёмістая: нават не вельмі магутная друкарская машына каштуе 20 тысяч долараў. Вялікая машына наогул абыходзіцца ў 100 тысяч. У аршанцаў асноўныя фонды «цягнуць» на 3 мільярды 73 мільёны рублёў. Так што складана будзе пакрыць чэкамі «Маёмасць», што на руках у членаў калектыву, хоць бы 10 працэнтаў кошту асноўных фондаў.

Прыкладна 30—39 працэнтаў акцый застанецца ў «падвешаным» стане. Хто іх купіць? У лепшым выпадку нейкі айчынны інвестыцыйны фонд. А потым і мы, і калектыў друкарні будзем чакаць, што гэты фонд заробіць з цягам часу грошы і мо ўкладзе іх у развіццё друкарні (а мо і не). А пакуль заробіць, ён, тым не менш, будзе спраўна забіраць штомесяц сваю частку прыбытку. Ці ведаюць члены калектыву, што прыбыткамі ім давядзецца цяпер дзяліцца з дзяржавай (трымальнікам асноўнага пакета акцый) і інвестарам? Што зменшацца фонды накаплення і выкарыстання?

Цяпер прыкінем: за акцыямі працоўнага калектыву не «стаяць» канкрэтныя грошы. За імі толькі чэкі «Маёмасць». І інвестфонд такі ж «багаты», як і нашы друкары. Назавіце тыя інвестфонды, якія ўжо зарабілі грошы і пачалі ўкладваць іх у развіццё вытворчасці. Іх многа? А сродкі патрэбны мільярдныя.

Вось і атрымліваецца, што адзіным «донарам» друкарні па-ранейшаму застаецца дзяржава. З той толькі розніцай, што цяпер яе паўнамоцтвы і правы будуць значна звужаны. Чаму апошняя акалічнасць павінна нас хваляваць? У Оршы друкуюць тры раённыя газеты — мясцовую, а таксама талачынскую і дубровенскую. У рэспубліцы дзейнічае сістэма цэнтралізаванага друкавання раённых газет. Згодна з ёю, у Брэсце друкуюцца сем «раёнак», у Віцебску — восем, у Магілёве — ледзь не ўся вобласць.

Агульнавядома, што раённы друк перажывае не лепшыя часы. Папраўіць сваё фінансавае становішча за кошт збяднелага чытача газетчыкі не могуць. І амаль адзінае, чым мы можам ім дапамагчы, гэта трымаць цэны на паліграфічныя паслугі ў больш-менш прымальных межах. Калі адпусціць сёння друкарні ў «вольнае плаванне», яны абавязкова сутыкнуцца з фінансавымі праблемамі і паспрабуюць вырашыць іх і за кошт цаны паліграфічных паслуг для «раёнак».

Дарэчы, мы лічым, што было б справядліва, калі б у ходзе прыватызацыі (калі яна пачнецца) нейкая частка акцый была выдзелена рэдакцыям раённых газет, якія друкуюцца на пастаяннай аснове ў прыватызуемай друкарні. Гэта было б гарантыяй для радакцый і іх чытачоў, што газету ў перспектыве ніхто не выставіць за вароты. З пункту ж гледжання сацыяльнай справядлівасці тут усё, я лічу, у парадку: у друкарню дзяржава столькі гадоў укладвала сродкі, якія яна атрымлівала ў тым ліку і з дапамогай рэдакцый газет і іх падпісчыкаў.

Так што, як бачыце, мы не супраць прыватызацыі аршанскай друкарні. Проста мы не хацелі б прыватызацыі дзеля прыватызацыі. Трэба ўсё вельмі дакладна падлічыць. Паклапаціцца, каб былі захаваны інтарэсы ўсіх зацікаўленых бакоў. Дзяржавы — таксама. І першае, што варта зрабіць аршанцам, — знайсці інвестара. Калі ёсць такі інвестар, які гатовы ўжо зараз укласці ў друкарню «жывыя» грошы, — мы дадзім ініцыятыве зялёную вуліцу. А пакуль што сітуацыя «сырая».

Зараз мы рыхтуем да прыватызацыі мінскую фабрыку «Чырвоная зорка». На яе прыкладзе адпрацуем мадэль, прыдатную для іншых. Пастараемся пазбегнуць памылак, дапушчаных расіянамі. (У прыватнасці, некантралюемага нікім росту цэн на паліграфічныя паслугі.)

Лягчэй за ўсё было б пагадзіцца з ініцыятывай аршанцаў і адпусціць іх у «вольнае плаванне».

Але на справе гэта азначае зняць з сябе адказнасць за прадпрыемства, за канкрэтных людзей, што там працуюць, за дзяржаўную праграму. Хачу ім параіць не гарачыцца і лепш лічыць, каб не прайграць.

---

**ДЫЯГНАЗ**

# ПСІХ

**БРАК ГЕНЕТЫЧНЫ**

Справа была такая. Двое грамадзян выпівалі гарэлку, а потым запівалі яе півам і нетаропка разважалі «за жыццё». Гэты прыемны занятак быў перарваны трэцім грамадзянінам, якому таксама хацелася піва, але з грашыма было кепска, проста сказаць, не было зусім. Таму трэці моўчкі «пазычыў» у двaix куфаль піва. Натуральна, ім такое не спадабалася і яны гэтага небагатага грамадзяніна даволі груба з піўбара выкінулі.

Тут ужо пакрыўдзіўся ён. І, трэба сказаць, вельмі моцна, бо пабег дадому, узяў кухонны нож і ўсадзіў яго аднаму з двух у сэрца. Ад чаго той і памёр на месцы...

Гэта ўсё здарылася некалькі гадоў назад. Забойцу, Эдуарду М., было тады 18 год. У забітага засталіся жонка-алкагалічка і двое дзяцей.

З пункту погляду крыміналістыкі злачынства было нескладанае. Сведак — больш чым дастаткова. Рэчавыя доказы ў наяўнасці. Следчаму заставалася фармальна правільна правесці неабходныя дзеянні і перадаць справу ў суд. Так і было зроблена.

Суд, аднак, вынес наступную пастанову: «Вызваліць Эдуарда М. ад крымінальнай адказнасці за грамадска-небяспечнае дзеянне.., якое ўчынена ў стане страты памяці». Суд таксама вырашыў прымяніць да Эдуарда прымусовае медыцынскае лячэнне. Эдзік, як проста гавораць у народзе, аказаўся нармальным псіхам, прашу прабачыць за няўклюдны каламбур.

Згодна з прынятым парадкам, усе забойцы праходзяць абавязковую СПЭ — судова-псіхіятрычную экспертызу. Тым больш, у следчага пасля размоў з Эдзікам з'явіліся пэўныя сумненні наконт яго нармальнасці. Заключэнне экспертаў іх пацвердзіла: вельмі запальчывы, падчас успышак злосці сябе не кантралюе, з'яўляецца пена ля рота, вочы становяцца «шалёныя», — увогуле лічыць, што забіў правільна, «адпомсціў крыўдзіцелю».

Восенню 1989 года наш герой праходзіць стацыянарную псіхіятрычную экспертызу ў Навінках. Дыягназ медыкаў несуцяшальны: прызнана поўная адсутнасць памяці, пакутуе на прыроджаную разумовую адсталасць у форме дэбільнасці з псіхапатызацыяй асобы па эпілептоіднаму тыпу. Патрэбна невялікая расшыфроўка.

Уласна дэбільнасць не з'яўляецца падставай для таго, каб лічыць чалавека хворым. Але калі яна спалучаецца з псіхапатызацыяй асобы — тут пытанняў няма. Псіхапаты падзяляюцца на 8 асноўных груп. Эдзік аднесены да так званых эпілептоідаў. Іх прыметы: крайняя раздражняльнасць, прыступы тугі, страху, гневу, нецярплівасці, упартасці, крыўдлівасці, жорсткасці, схільнасці да скандалаў.

Самы час задацца пытаннем: якім чынам грамадства атрымала такі небяспечны «падарунак»? Перакажам даныя ўрачэбна-псіхіятрычнага агляду.

Нарадзіўся другім у сям'і з трох дзяцей. Бацькі пілі. У 1983 годзе маці пазбавілі бацькоўскіх правоў. Хадзіць пачаў у тры гады, тады ж — складна размаўляць. Выхоўваўся ў кругласутачным дзіцячым садзіку. Вучэбную праграму ў школе засвойваў з вялікімі цяжкасцямі. Сем класаў скончыў у школе-інтэрнаце для разумова адсталых дзяцей. Часта ўцякаў са школы. Канфліктаваў з дзецьмі і выхавацелямі. Запальчывы, асабліва жорсткі, скрытны — так характарызаваў яго дырэктар школы (пасля забойства). Апошняе месца работы — фасоўшчык у магазіне, дзе светлых успамінаў пра сябе не пакінуў таксама. Чыста па Гогалю: «матуля ў дзяцінстве на падлогу ўпусціла, з тае пары гарэлкай шыбае». Яўны генетычны брак без усякага двукосся.

Толькі на падставе крымінальнай справы высвятляецца: Эдзік М. і да злачынства быў душэўнахворым чалавекам з усімі адсюль наступствамі. Звернем увагу на вышэйпамянёны акт медагляду: «прыроджаная разумовая адсталасць». Іншымі словамі, псіхіятры толькі канстатавалі наяўны факт. Які імі да гэтага не быў выяўлены? Што ў рэшце рэшт і прывяло да смерці чалавека, у аднолькавай ступені як дзікай, так і недарэчнай.

**БРАК ПСІХІЯТРЫЧНЫ**

Ужо крыху забылася, але раней псіхіятрыі былі ўласцівыя не зусім традыцыйныя функцыі. Напрыклад, пастаноўка на ўлік без згоды чалавека. Падкрэслю: здаровага чалавека. Самы папулярны дыягназ быў «вялацякучая шызафрэнія». Псіхіятры не любяць аб гэтым гаварыць. Але гэта было.

У мяне захоўваецца спіс незаконна рэпрэсіраваных, які налічвае каля 150 чалавек. І гэта толькі тыя, у адносінах да якіх можна штосьці даказаць. Іх віна заключалася ў пратэсце супраць існуючай сістэмы.

Сёння з былой функцыяй псіхіятрыі паспяхова спраўляюцца іншыя органы. Псіхіятрам пакінулі непасрэдна псіхіятрыю.

Заканадаўства зараз не дазваляе прымусова лячыць псіхічна хворых без іх згоды, ці згоды родзічаў, ці законных прадстаўнікоў. Такога чалавека да псіхіятра могуць прывесці толькі родныя ці міліцыя. У апошнім выпадку — калі прыметы вар'яцтва яўныя.

Пры гэтым трэба напісаць заяву на імя загадчыка гарадскога псіхдыспансера. Толькі ён дае дазвол на першы агляд. Але прымусова адправіць на лячэнне не мае права і ён. Гэта вырашае камісія. Напрыклад, шызафрэнікі, дэбілы і імбецылы (формы алігафрэніі), неўротыкі адпадаюць адразу. Лячэнне прызначаецца ў крайніх выпадках: забойства альбо замах на забойства, спроба суіцыду, — словам, калі чалавек у стане страты памяці становіцца небяспечным для навакольных і самога сябе. Цікава, што кола дыягназаў, па якіх ставяць на ўлік сёння, звузілася. Напрыклад, алігафрэнаў і неўротыкаў — не ставяць.

«Кліенты» псіхдыспансера падзелены на 4 групы ў залежнасці ад цяжкасці захворвання. Скажам, хворых першай групы ўрач павінен наведваць дома раз у два тыдні, другой — раз у месяц і г.д. Праўда, так мяркуецца ў ідэале. Рэальна становішча выглядае крыху горш. Гарадскі псіхдыспансер мае ў сваім распараджэнні адну машыну. Аўтабаза, якая абслугоўвае гэту ўстанову, можа транспарт даць, а можа і не даць. Перыядычнасць аглядаў хворых, такім чынам, можна ставіць пад сумненне. У дадатак да ўсяго, медыкаменты дыспансер атрымлівае пераважна па гуманітарнай лініі. Мякка кажучы, не вельмі рэгулярна. Бываюць выпадкі, калі купіраваць абвастрэнне хваробы транквілізатарамі не ўяўляецца магчымым з-за іх адсутнасці. І што, скажыце, рабіць з такім хворым?

Самы вядомы выпадак апошніх гадоў — забойства хворым (ён стаяў на ўліку) сваёй маці і раненне сястры. Як быццам відавочна: без памылак медыкаў тут абысціся не магло. Да суда, аднак, справа не дайшла. Псіхіятрыя — штука тонкая. Напрыклад, прадказаць абвастрэнне хваробы немагчыма, паведамілі мне.

Дазвольце, тым не менш, не пагадзіцца. Пры пастаянным і ўважлівым назіранні хворага ўрач не можа не заўважыць небяспечных змяненняў у стане псіхікі пацыента. І пастарацца прадухіліць прыступ.

У прынцыпе, урача могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці па арт. 177, 178 КК Рэспублікі Беларусь. Напрыклад, за няправільныя дыягназ ці лячэнне. Але парадокс у тым, што даказаць гэта могуць толькі самі псіхіятры. Ці стануць яны «закладваць» калегу, калі няма гарантыі, што яны самі не могуць апынуцца на яго месцы? Загадчык аддзялення судова-псіхіятрычнай экспертызы Мікалай К. такіх выпадкаў не прыпомніць. Сапраўды тонкая гэтая матэрыя — чалавечая псіхіка...

Але вернемся да таго, з чаго пачалі: чалавек забіты. Паколькі жонка нябожчыка — алкагалічка, пацярпеўшай па справе прызнана яго родная сястра. Аднак уважлівы прагляд справы не навёў на след нейкай кампенсацыі ёй. Сястры выдалі толькі адзенне брата. Больш таго, пытанне аб кампенсацыі ў ходзе судовага працэсу нават не ўзнікала.

Няма ў нас такой практыкі. Як няма традыцыі рэгулярна звяртацца да псіхіятра на прадмет удакладнення стану свайго псіхічнага здароўя. (У нас візіт да псіхіятра роўны добраахвотнаму прызнанню сябе ненармальным.) Як няма закона аб здароўі, дзе было б сказана: грамадзянін нясе адказнасць за стан свайго здароўя. У тым ліку псіхічнага.

Тут узнікае новая серыя пытанняў. Напрыклад: якую меру адказнасці нясуць бацькі Эдзіка? Медыкі, якія аглядалі яго ў дзяцінстве і нічога такога не знайшлі? Выхавацелі школы-інтэрната, якія добра ведалі, што сабой уяўляе «скрытны» хлопчык?

Суд не абмяркоўваў ступень адказнасці ўсіх гэтых асоб і ўстаноў. Юрыдычна вінаўных ён не вызначыў. Фактычна яны ёсць. Вінаўная сістэма псіхіятрычнай дапамогі, якая з савецкіх часоў мала ў чым змянілася. Мо толькі па форме. Часцей за ўсё псіхіятры займаюцца канстатацыяй фактаў. Стройнай сістэмы прафілактыкі, на жаль, няма.

Выснова: у поўнай меры ступень адказнасці павінна несці дзяржава, якая гэтую сістэму стварыць і падтрымаць матэрыяльна пакуль не імкнецца...

**ГРАМАДЗЯНІН ІВАНОЎ СУПРАЦЬ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

Як гаворыцца, час збіраць каменне.

Эдзік трапіў на прымусовае лячэнне ў спецбальніцу МУС СССР, яго крыўдзіцель — на могілкі. З часам Эдзіка перавялі на больш лёгкі рэжым у Навінкі. У 1993 годзе камісія прызнала: наступіла ўстойлівая рэмісія і хворы можа быць выпісаны пад нагляд раённага псіхіятра.

Звычайна пры разглядзе такіх спраў суд не ставіць сабе задачы капаць углыб. Суду, як гаворыцца, усё ясна: псіх, ён і ёсць псіх. Асабіста мне невядомы выпадкі, калі б суд паспрабаваў высветліць ступень адказнасці псіхіятра. Зрэшты, чаго не бывае. І я разумею суддзю: прадстаўнікі гэтай галіны медыцыны адрозніваюцца высокай ступенню карпаратыўнасці — «свая сваю пазнаша». Магу пацвердзіць на падставе ўласнага вопыту, калі пасля аднаго крыху нязвыклага артыкула аб псіхіятрыі на мяне наваліўся цэлы тузін акадэмікаў, дактароў і кандыдатаў гэтых навук.

Але калі ўсё так складана і, мяркуючы па ўсім, у бліжэйшы час змяняцца не будзе, то якое выйсце?

Рэкамендую зыходзіць з логікі. Згодна з ёй, псіхіятрыя фінансуецца з бюджэту. Адна з яго крыніц — нашы падаткі. Іншымі словамі, мы плацім у тым ліку і за тое, каб дзяржава праз сістэму псіхіятрычнай дапамогі гарантавала нас ад сустрэчы з нажом чарговага «эдзіка». Фактычна ў нас ёсць фармальнае права спытаць з дзяржавы за маральныя, матэрыяльныя ці фізічныя страты. Калі суд не можа ці не хоча знайсці канкрэтнага вінаўнага (а суд — установа таксама дзяржаўная, асабліва цяпер), то, значыць, мы можам зусім упэўнена пераадрасаваць свае прэтэнзіі дзяржаве. Ва ўсякім разе, забараніць гэта не можа ніхто. Ды і іншага выйсця я, шчыра кажучы, не бачу.

Уяўляеце працэс «грамадзянін Іваноў супраць Рэспублікі Беларусь»? Гучыць, вядома, моцна, але прэцэдэнту пакуль не створана. У значнай меры — па нашай з вамі віне. Той выпадак, калі колькасць рана ці позна павінна перайсці ў якасць.

За мяжой падобныя працэсы хутчэй норма, і на іх асаблівай увагі ніхто не звяртае. Але там норма і тое, што кожны забяспечаны чалавек мае асабістага псіхіятра, а не вельмі забяспечаны рэгулярна бывае проста ў псіхіятра. Норма — ведаць і гарантавана абараняць свае правы, норма — несці адказнасць за стан свайго здароўя. Палка з двума канцамі. Дакладнае размежаванне правоў і абавязкаў. Называйце як хочаце, але наш менталітэт не ідзе далей наведвання бліжэйшай віна-гарэлачнай «кропкі» ў складаных жыццёвых сітуацыях, п'яных споведзяў, слёз і скаргаў на лёс...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

***P.S. Паводле статыстычных даных, 40 працэнтаў крымінальных злачынстваў учыняюць людзі з псіхічнымі адхіленнямі.***

**Арэнднае прадпрыемства «Аўтобусны парк № 2» г. Баранавічы — максімум зручнасцей і камфорту пры мінімальных магчымасцях**

**Дырэктар арэнднага прадпрыемства «Аўтобусны парк № 2» г. Баранавічы Уладзімір ПУЧКО:**

# «ЯК БЫ ДОБРА МЫ НІ ПРАЦАВАЛІ, ПАСАЖЫРЫ НАЎРАД ЦІ СКАЖУЦЬ НАМ ДЗЯКУЙ»




**Мяккі аўтобус «Мерседэс-Бенц-303» атрымаў баранавіцкую прапіску не так даўно. Праўда вадзіцелі Уладзімір Сакуць (у кабіне) і Мікалай Андрэюк ужо паспелі дасканала вывучыць машыну і пабываць не ў адным рэйсе па Еўропе. Экіпаж гарантуе пасажырам акрамя камфорту і шматлікіх зручнасцей яшчэ і высокую культуру абслугоўвання. А што яшчэ ў дарозе патрэбна?**

***Кожны з нас ледзь не штодня бывае ў ролі пасажыра і выдатна ведае, як непрыемна дабірацца дамоў у час «пік». Пакамечаны гардэроб, абтаптаныя чаравікі, вырваныя гузікі — і гэта толькі ў лепшым выпадку. У горшым — адрэзаная сумачка, абшнараныя нечымі «ўмелымі» рукамі кішэні.***

***І тым не менш, людзі і транспарт (напрыклад, аўтобусны) — сёння паняцці непадзельныя. Сённяшні дзень беларускіх транспартнікаў наўрад ці назавеш светлым. Пасля распаду Саюза аўтобусныя паркі рэспублікі перасталі цэнтралізавана, за кошт дзяржаўных сродкаў атрымліваць новыя «Ікарусы», «ЛіАЗы», ЛАЗы. Усе клопаты па абнаўленню аўтапаркаў сучаснымі машынамі ляглі на плечы саміх транспартных прадпрыемстваў. Эканамічныя цяжкасці, якія зведвае Беларусь ужо каторы год, імгненна адбіліся на стане АП. З-за адсутнасці ўласных абаротных сродкаў і паўнацэнных дзяржаўных датацый (а ва ўсім свеце пасажырскія перавозкі дацыруюцца з дзяржбюджэту) многія аўтобусныя паркі рэспублікі даязджаюць і давозяць пасажыраў на старым запасе. І, вядома ж, казаць пра нейкі сэрвіс ці культуру абслугоўвання ў такім разе не прыходзіцца. Не да таго. Выжыць бы і выціснуць з аўтобуса апошнія матарэсурсы.***

***Што будзе далей — прадказаць цяжка.***

***Праўда, у такіх умовах ёсць яшчэ такія аўтобусныя паркі, як, напрыклад, арэнднае прадпрыемства АП-2 г. Баранавічы, якія знаходзяць магчымасць не скарачаць маршруты, папаўняць аўтагаспадарку машынамі няхай не новымі, але з вялікім запасам прабегу, клапаціцца аб камфорце для пасажыраў, і, самае галоўнае, змаглі захаваць працаздольны калектыў і рэгулярна выплачваць зарплату.***

***Пра тое, як баранавіцкім транспартнікам удаецца выжываць у цяперашніх эканамічных умовах, што робіцца для далейшага развіцця маршрутнай сеткі і шмат пра што іншае — наша размова з дырэктарам арэнднага прадпрыемства «Аўтобусны парк № 2» г. Баранавічы Уладзімірам ПУЧКО.***

**— Уладзімір Уладзіміравіч, шчыра кажучы, хто хоць раз карыстаўся паслугамі грамадскага транспарту, асабліва раніцай ці ўвечары, калі народ дабіраецца на работу ці з работы дадому, успомніць яму ёсць пра што...**

— Далей можна не працягваць, паколькі ўспаміны яго будуць далёка не самыя радасныя. Што зробіш, транспарт — гэта твар эканомікі. Таму сёння, як бы добра мы ні працавалі, людзі наўрад ці скажуць нам дзякуй.

**— Ваша сцвярджэнне заснавана на канкрэтных фактах?**

— На жаль, такіх фактаў можна набраць амаль у кожным гарадскім ці прыгарадным аўтобусе, Ну што зробіш, калі вадзіцель адной рукой круціць руль, а другой выцірае слёзы, таму што ў асноўным яму прыходзіцца перавозіць людзей на транспарце, у якога ўжо даўно выйшаў мотарэсурс ці перавысіў яго ў 5-6 разоў. Меnavіта ў нашым парку каля 90 працэнтаў аўтобусаў падыходзяць да крытычнай адзнакі. Гэта значыць, што заўтра яны ўжо могуць не выйсці ў рэйс.

**— Пры жаданні, відаць, усё ж можна знайсці спосаб, каб не толькі зводзіць канцы з канцамі, але і паспяхова працаваць у сённяшніх умовах. Як прыклад зноў жа можна прывесці Баранавіцкі аўтапарк. Не выпадкова ж на базе вашага АП нядаўна прайшоў семінар-нарада, наладжаны Міністэрствам транспарту рэспублікі.**

— Ведаеце, хваліцца не хацелася б, бо кожны дзень падносіць свае сюрпрызы. Уявіце, што яшчэ ўчора мы працавалі ў адным рытме, а сёння ўжо пайшлі збоі... з-за адсутнасці паліва, у прыватнасці дызельнага. І я пачынаю кожную раніцу «бамбіць» тэлефоннымі званкамі нафтабазу, шукаць гаручае ў камерцыйных структурах па ўсёй рэспубліцы і знаходжу яго аж у Пружанах. Пасылаю туды бензавоз, каб ён прывёз стратэгічную сыравіну, якой хопіць на некалькі дзён. А потым зноў усё паўторыцца. Вядома, вы можаце мяне запытаць, чаму б не адправіць за 150 км аўтацыстэрну, каб яна адразу даставіла дызпаліва на тыдзень-два...

**— Сапраўды, слушнае пытанне...**

— Адказ на яго вельмі просты. Паліва адпускаецца па перадаплаце... І трэба мець не адзін мільярд свабодных грошай, каб частку іх можна было аддаць на гаручае. А дзе іх узяць, калі ва ўсе часы гарадскія і прыгарадныя перавозкі лічацца стратнымі і патрабуюць адпаведных дзяржаўных датацый мясцовых уладаў.

**— А з гэтым праблема?**

— Карціна тут вось якая. Не скажу, што Мінтранс стаіць у баку ад нашых патрэб. Не. Але ж датацыі з дзяржбюджэту закладваюцца ў каштарыс з пачатку года. Усё было б цярпіма, калі б выдзеленыя грошы не «з'ядала» інфляцыя і кошт саляркі быў стабільны. А так глядзіце: датацыі ўжо пайшлі на пакрыццё расходаў і страт пасажырскіх перавозак, а цэны на дызпаліва выраслі амаль у два разы. І гэта, відаць, не мяжа. На чым нам вазіць людзей?! Не ведаеце... І я таксама думаю, як нам дажыць да канца года... калі будуць выдзелены новыя сродкі з бюджэту...

А яшчэ зусім нядаўна аўтатранспартнікі рэспублікі мелі праблем з гаручым значна менш, чым сёння. Мы разам з пажарнымі, міліцыяй, хуткай дапамогай і іншымі спецыяльнымі аўтасродкамі атрымлівалі паліва ў патрэбнай нам колькасці і па фіксаваных цэнах. Дзесьці года паўтара таму нас з гэтых «спісаў» убралі па камандзе зверху. Не ведаю, каму ад такога загаду стала лепш. Ва ўсякім разе не работнікам аўтапаркаў і не пасажырам.

А пакуль застаецца спадзявацца на дапамогу роднага міністэрства... У яго адрас адпраўлена чарговае пісьмо-просьба.

**— Разлічваеце на станоўчы адказ?..**

— Калі шчыра, то не ведаю, якая рэзалюцыя будзе накладзена міністрам, бо Міністэрства транспарту — гэта не бяздонная бочка.

**— Спрацоўвае старая ісціна: выратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў...**

— Так. Гэты жыццёвы прынцып сядзіць унутры кожнага з нас... Прыходзіцца шукаць хады-выхады, каб захаваць маршруты, забяспечыць амаль тысячны калектыў аўтапарка нармальнай зарплатай, выдаваць яе без затрымкі і нават набываць аўтобусы, якія, па маіх прыкідках, змогуць яшчэ дзесятак гадоў курсіраваць па розных маршрутах...

**— Гэта ўжо цікава...**

— Перш за ўсё хацелася б падзякаваць гарадскім уладам Баранавіч у асобе старшыні гарвыканкома Валерыя Захарчанкі. Мэр горада як ніхто іншы разумее, што пасажырскія перавозкі — гэта клопат агульны. Са свайго боку горад выдзяляе нам не толькі датацыі, але і займаецца ўладкаваннем дарог, прыпынкаў, асвятляльных мачтаў.

Я не крыўдую і на Ляхавіцкі райвыканком, які амаль заўсёды разлічваецца з намі за перавозкі людзей у гэты рэгіён і назад.

А вось пра баранавіцкія раённыя ўлады гэтага не скажаш. Відаць, яго кіраўнікоў слаба хвалюе, як людзі будуць дабірацца з горада ў вёскі, пасёлкі... Прывяду несуцяшальную лічбу. За 9 месяцаў 1996 года імі нашаму прадпрыемству пералічана аж 90 мільёнаў рублёў! А запазычанасць па дацыраванню, згодна з заключаным дагаворам, складае каля 550 мільёнаў рублёў. Афіцыяльная перапіска, якая вандруе паміж АП-2 і Баранавіцкім райвыканкомам, нашы просьбы аб дапамозе ў Брэсцкі аблвыканком, аб'яднанне, міністэрства, на працягу сёлетняга года нагадваюць ваенныя зводкі. Не ведаю, калі развяжацца гэты гордзіеў вузел, але прыгарадныя перавозкі застаюцца галаўным болем і праблемай толькі нашага калектыву.

**— Застаецца зрабіць круглыя вочы і пацікавіцца, за кошт чаго ўдаецца выжываць.**

— Для гэтага прыйшлося заняцца самай разнастайнай дзейнасцю. У нас яна называецца «іншымі відамі работ і паслуг».

Пачнём з гандлёвых плошчаў, якія арганізаваны і адпаведна абсталяваны каля баранавіцкага аўтавакзала. Там людзі могуць купіць-прадаць як тавары народнага спажывання, так і прадукты харчавання. Згадзіцеся, чалавеку вельмі зручна на месцы зрабіць пакупку ці нешта прадаць і тут жа паехаць дамоў.

Яшчэ ў нас ёсць цэх пластмасавых вырабаў, дзе мы вырабляем усе пластмасавыя запчасткі, якія прымяняюцца ў аўтобусах, а таксама асвоілі выпуск поліэтыленавай плёнкі, кажухоў для амартызатараў.

Лічу, што важным звяном у захаванні бюджэту аўтапарка з'яўляецца ўласны цэх па рамонту і аднаўленню аўтобусаў, дзе працуюць выдатныя спецыялісты, якія на высокім прафесіянальным узроўні выконваюць капітальны рамонт кузаваў аўтатранспарту. На сённяшні дзень там з пачатку года прайшлі поўны ці частковы рамонт каля 80 аўтобусаў. Калі ж палічыць, што кожны сярэдні рамонт па каштарысу абыходзіцца нямала: на «ЛАЗ-695», каб прывесці яго ў адпаведны выгляд знутры і звонку, патрэбна як мінімум 78 млн. рублёў, а для «Ікаруса-280» неабходна 122 млн. рублёў. Простымі арыфметычнымі дзеяннямі можна падлічыць, што мы зэканомілі не адзін мільярд рублёў толькі на рамонце. Праўда, з запаснымі часткамі зараз тугавата, таму часта мы старыя аўтобусы, якія не падлягаюць рамонту, выкарыстоўваем як базу запчастак.

**— Уладзімір Уладзіміравіч, без абнаўлення рухомага саставу любы аўтапарк чакае сумны канец...**

— Намёк зразумеў. Дык вось, нягледзячы на ўсе эканамічныя цяжкасці, толькі сёлета мы змаглі набыць 6 «свежых» аўтобусаў, хоць, вядома ж, не новых, таму што цэны на машыны з айчыннага і замежнага канвеераў даўно ўжо з дзевяццю нулямі. А вось былыя ў карыстанні аўтобусы з вялікім запасам мотарэсурсу мы знаходзім магчымасць купіць. Зноў жа дзякуй за гэта гарадскім уладам. За кошт уласных сродкаў куплены чатыры «Ікарусы» для гарадскіх перавозак, адзін «ЛАЗ-695» абмянялі на «ЛАЗ-699» з Салігорскім АП. Ну, і не магу не адзначыць, што баранавіцкі парк папоўніўся камфартабельным мяккім аўтобусам «Мерседэс-Бенц-303», які за лета паспеў аб'ездзіць многія еўрапейскія краіны з беларускімі турыстамі.

**— Турбізнес — гэта адзін з даходных артыкулаў АП-2 г. Баранавічы?**

— Па вялікаму рахунку так. Некалькі гадоў таму мы адкрылі маршрут на Варшаву, які і па сённяшні дзень карыстаецца попытам у людзей. З наступнага года, калі пачнецца сезон адпачынку, будзем вазіць жадаючых на курорты Балгарыі. Наогул, і сёлета, і ў мінулым годзе нашы аўтобусы вазілі народ на Чорнае мора, дзе знаходзіцца база адпачынку баранавіцкага аўтапарка. А на турбазу «Лясное возера», возера Свіцязь быў адкрыты рух маршрутнага таксі з прымальным для пасажыраў і выгадным для нас тарыфам.

**— Давайце на апошнім крыху спынімся. Аўтобусныя тарыфы, у асноўным на міжнародных лініях, заўсёды былі галаўным болем транспартнікаў. Яшчэ гадоў пяць таму ў мяккі аўтобус білеты заўсёды раскупляліся вельмі хутка, і вадзіцелі-міжнароднікі не ўяўлялі сабе, як гэта можна сотні кіламетраў везці паветра. А сёння нярэдка можна ўбачыць карціну, калі з Мінска ў Магілёў едзе менш за дзесятак чалавек.**

— Вывад напрошваецца просты: многім патэнцыяльным пасажырам цэны на білеты не па кішэні. Праўда, зараз мне не хацелася б глыбока абмяркоўваць гэтую тэму, бо ўстанаўліваць тарыфы на міжгароднія пасажырскія первозкі — прэрагатыва Міністэрства транспарту. І тым не менш, на мой погляд, у гэтым пытанні трэба весці больш гібкую палітыку. Ці прыраўнаваць аўтобусныя тарыфы да чыгуначных, ці ў будні, калі пасажырапаток значна меншы, чым у выхадныя і святочныя дні, расцэнкі на перавозкі змяншаць. А магчыма, правільней было б даць права ўстанаўліваць цэны на праезд у аўтобусах аўтапаркам.

Гібкасць тарыфаў мае свае дадатковыя плюсы. На гэты конт ёсць паказальны прыклад. З красавіка гэтага года ў нас дзейнічае маршрут Баранавічы—Мінск з экспрэсным рэжымам руху, дзе тарыф устаноўлены 138 рублёў за адзін км. Але гэты маршрут, нягледзячы на нізкія расцэнкі, рэнтабельны за кошт высокай напаўняльнасці. Яго рэнтабельнасць сёння складае 60 працэнтаў. Чатыры разы ў дзень аўтобусы ходзяць у сталіцу і назад не парожняком...

У процівагу — іншы прыклад. У чэрвені мы прасілі дазволу міністэрства адкрыць маршрут Баранавічы—Бабруйск з тарыфам за праезд 175 руб./км. На жаль, такога дазволу мы не атрымалі і паспрабавалі працаваць па цэнах з разліку 280 рублёў за кіламетр. У выніку, з-за высокага кошту праезду і нізкай напаўняльнасці, у рэшце рэшт яго прыйшлося закрыць.

**— Бічом усяго гарадскога аўтатранспарту рэспублікі з'яўляюцца «зайцы». Як у Баранавічах наладжана барацьба з безбілетнікамі? Ці можа такой праблемы тут не існуе?**

— Ды дзе там. На жаль, на свядомасць пасажыраў разлічваць не прыходзіцца. На кандуктараў стаўку не рабілі — гэта вяртанне да старога. Сёння мы ўзялі дадатковы штат кантралёраў. Да таго ж інжынерна-тэхнічныя работнікі і іншыя работнікі парка адпрацоўваюць у якасці кантралёраў па 16 гадзін штомесяц.

І яшчэ. Для больш эфектыўнай барацьбы з «зайцамі» падключаны 8 міліцыянераў. Ведаеце, пры сустрэчы з кантралёрам у пары з чалавекам у форме пасажыры значна хутчэй праяўляюць свядомасць і плацяць за праезд. Дзякуючы такому сілавому метаду выручка ад продажу білетаў у горадзе павялічылася на 500—600 мільёнаў рублёў у месяц.

І ўсё ж да кожнага пасажыра міліцыянера не прыставіш, таму з-за безбілетнікаў мы недабіраем 20 працэнтаў выручкі.

Вядома, ідэальным варыянтам было б, калі б усе без выключэння плацілі за праезд без прымусу. Тады за выручаныя грошы я змог бы без праблем купіць акумулятары, гуму, запчасткі...

Але аб гэтым пакуль што можна толькі марыць...

**— Мары часам здзяйсняюцца... І тым не менш ужо той факт, што арэнднае прадпрыемства «Аўтобусны парк № 2» г. Баранавічы — адно з самых стабільных у горадзе, аб многім гаворыць.**

— За гэта трэба сказаць дзякуй і галоўнаму інжынеру Юрыю Хрышчановічу, адказнаму за іншыя віды дзейнасці Івану Лапкоўскаму, начальніку вытворчасці Аляксандру Кухарчыку, камерцыйнаму дырэктару Казіміру Палонскаму і ўвогуле ўсім работнікам аўтапарка, абсалютная большасць якіх — вадзіцелі. А ў цэлым усе мы робім адну справу — перавозім людзей. Як бы нам цяжка ні прыходзілася.

## Арэнднае прадпрыемства «Аўтобусны парк № 2» г. Баранавічы

**Аўтобусны парк № 2 г. Баранавічы — прадпрыемства, якое ажыццяўляе ўнутрыгарадскія, прыгарадныя, міжгароднія, міжнародныя перавозкі, а таксама рэйсы па заказах насельніцтва і арганізацый.**

Аўтобуснымі перавозкамі АП-2 ахоплены жыхары гарадоў Баранавічы і Ляхавічы, а таксама Баранавіцкага і Ляхавіцкага раёнаў. Па стану на 1 кастрычніка 1996 г. АП-2 абслугоўвае 17 гарадскіх маршрутаў, 30 прыгарадных, 27 міжгародніх (з іх 16 маршрутаў мясцовага значэння, г. зн. звыш 50 км). На 4 загарадных маршрутах працуюць маршрутныя таксі, адкрыта таксама 5 міжнародных маршрутаў.

У цэлым па АП-2 штомесяц выконваецца 51.000 рэйсаў, з іх 4500 — на гарадскіх маршрутах.

У структуры прадпрыемства функцыянуе аўтавакзал г. Баранавічы з колькасцю адпраўленняў аўтобусаў 110—158 — у залежнасці ад дзён тыдня, і аўтастанцыя Ляхавічы з колькасцю адпраўленняў 43—74.

Штодзень АП-2 перавозіць 163 тысячы пасажыраў і выконвае 875 пасажыра-кіламетраў. Гадавы аб'ём перавозак складае 60 мільёнаў пасажыраў і 320 мільёнаў пасажыра-кіламетраў.

Наш адрас: Рэспубліка Беларусь.
г. Баранавічы, вул. Тэльмана, 102.
Тэл.: (-01634) 5-27-49, 5-11-03.
Тэлетайп: 334165 «Аўта».
Факс: (8-_1634) 5-24-39.

**У Івана Лапкоўскага дэбет заўсёды сходзіцца з крэдытам. А інакш і быць не можа, паколькі работа начальніка вытворча-гандлёвага аддзела АП-2 заўсёды звязана з падлікам расходаў, прыбыткаў ад іншай дзейнасці аўтапарка: функцыянавання гандлёвых плошчаў, цэха пластмасавых вырабаў. Пакуль Іван Ігнацьевіч вядзе сваю гаспадарку як прафесіянал.**



**Матэрыялы рэкламна-інфармацыйнай старонкі падрыхтаваў Уладзімір ЗДАНОВІЧ. Фота аўтара.**

## ЕЛЬЦЫН ДАРУЧАЕ ЎРАДУ ВЫВУЧЫЦЬ ПРАПАНОВЫ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ ЛУКАШЭНКІ АДНОСНА ЎМАЦАВАННЯ МЫТНАГА САЮЗА

Прэзідэнт Барыс Ельцын даў даручэнне прэм'еру Віктару Чарнамырдзіну, віцэ-прэм'еру Валерыю Сярову і міністру па справах СНД Аману Тулееву «ўважліва прапрацаваць зварот Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі» па праблемах Мытнага саюза і інфармаваць яго аб кроках з боку Расіі ў бок яго ўмацавання.

Прэс-сакратар прэзідэнта Сяргей Ястржэмбскі на брыфінгу ў аўторак у Крамлі паведаміў, што А. Лукашэнка звярнуўся да Б. Ельцына з пасланнем, у якім падзяліўся сваімі меркаваннямі з прычыны стварэння адзінай мытнай тэрыторыі дзяржаў — удзельніц Мытнага саюза (РФ, Беларусь, Кіргізія і Казахстан).

Як сказаў прэс-сакратар, на думку А. Лукашэнкі, нягледзячы на тое, што ўдзельнікі Мытнага саюза зрабілі шэраг сур'ёзных крокаў па паглыбленню ўзаемадзеяння і рэальнаму стварэнню адзінай мытнай тэрыторыі, у апошні час гэты працэс крыху затармазіўся. Прэзідэнт Беларусі ў сувязі з гэтым даслаў свае прапановы па паскарэнню гэтага працэсу.

Паводле слоў С. Ястржэмбскага, прэзідэнт Расіі «пранікся заклапочанасцю свайго партнёра» і даручыў ураду разабрацца з прычынамі такога становішча.

**Інтэрфакс.**

## ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ ВЫХОДЗІЦЬ З АРГАНІЗАЦЫІ ААН ПА ПРАМЫСЛОВАМУ РАЗВІЦЦЮ

Напрыканцы 1997 года Вялікабрытанія выходзіць з арганізацыі ААН па прамысловаму развіццю. Пра гэта ўчора паведаміў брытанскі ўрад. Такое рашэнне будзе азначаць, што штогадовы бюджэт гэтай арганізацыі, якая займаецца пытаннямі аказання дапамогі краінам, што развіваюцца, зменшыцца на 7,4 працэнта. Вялікабрытанія ўжо трэцяя дзяржава, якая заявіла аб разрыве адносінаў з гэтай арганізацыяй. Раней з яе выйшлі Злучаныя Штаты і ФРГ.

## ГІСТАРЫЧНАЕ ПРЫМІРЭННЕ ЧЭХІІ І ФРГ

Пасля шматгадовай спрэчкі ФРГ і Чэхія ўзгаднілі тэкст сумеснай заявы аб гістарычным прымірэнні двух народаў. У выніку ўцечкі інфармацыі вытрымкі з гэтага дакумента ўчора з'явіліся на старонках нямецкіх газет. Згодна з паведамленнямі ў друку, нямецкі бок прызнае адказнасць Германіі за яе ролю ў гістарычным развіцці, якое прывяло да Мюнхенскага пагаднення 1938 года — да выгнання людзей з памежных раёнаў Чэхаславакіі, а таксама да разгрому і акупацыі Чэхаславацкай Рэспублікі. Германія выказвае шкадаванне з прычыны пакут і несправядлівасці, якія прынеслі чэшскаму народу нацыянал-сацыялісцкія злачынствы.

## ПРЫЧЫНА СМЕРЦІ — АНАНІМНЫ ЗВАНОК

Прычынай смерці былога міністра культуры Літвы Дайнюса Трынкунаса стаў ананімны званок. Паводле апошняй інфармацыі літоўскіх газет, 29 лістапада невядомы пазваніў пану Трынкунасу і паведаміў, што яго сын загінуў у аўтамабільнай катастрофе на шашы Мінск — Вільнюс. Ананім быў добра інфармаваны. Трынкунас-малодшы, які нядаўна назначаны першым сакратаром пасольства Літвы ў Беларусі, сапраўды ў гэты дзень планаваў паездку з Мінска ў Вільнюс. Трагічнае паведамленне настолькі ўсхвалявала 65-гадовага экс-міністра, што раніцай 30 лістапада ў выніку абвастрэння ішэмічнай хваробы сэрца ён памёр. На думку ўрачоў, моцны стрэс мог стаць прычынай смерці.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛТА.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, месцамі невялікія ападкі, на большай частцы тэрыторыі туман, слабы галалёд. Тэмпература паветра ў Брэсце, Мінску, Магілёве — 1—3 градусы марозу, Гродне, Віцебску, Гомелі — каля нуля.

У наступныя двое сутак: 13-га — без істотных ападкаў, месцамі туман, слабы галалёд; 14-га ўначы — на паўночным захадзе, удзень — месцамі ападкі, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература 13-га ўначы — 0—мінус 5, удзень — плюс 1—мінус 4; 14-га на працягу сутак — 1—6 градусаў марозу.

# АБ'ЯДНАНАЯ СТАЛІЦА АБ'ЯДНАНАЙ КРАІНЫ

**Цяперашні Берлін можна без сумнення назваць банальнай фразай — «горад кантрастаў» з-за пакуль яшчэ існуючай розніцы паміж яго ўсходнімі і заходнімі раёнамі, можна яго назваць і горадам новабудоўляў з-за вялікіх маштабаў пераўтварэння нямецкай сталіцы. Ёсць напэўна ў Германіі і больш прыгожыя і ўтульныя гарады, але Берлін як ніякі іншы адлюстроўвае сутнасць працэсаў, што праходзілі і цяпер праходзяць у гэтай дзяржаве. Ён падзяліў лёс усёй краіны, якая была раздзелена на дзве часткі, а нядаўна зноў аб'яднана ў адну. Аб'яднаны Берлін зноў стаў сталіцай адной Германіі.**

### СЦЯНА

Ад сумна вядомай Берлінскай сцяны засталося некалькі музейных метраў, бетонныя кавалачкі ў скрыначках, якія можна купіць як сувеніры, ды вартавая вежа на месцы былой мяжы, якая засталася як напамін аб былым расколе нямецкай сталіцы. За тры дзесяткі гадоў існавання гэтай сцяны (з пачатку шасцідзесятых да канеца васьмідзесятых) тысячы ўсходніх немцаў спрабавалі яе пераадолець, некалькім сотням з іх гэта каштавала жыцця: яны гінулі ад куль памежнікаў, разбіваліся пры падзенні, танулі ў рацэ... Гэтая сцяна была пабудавана толькі для ўсходніх немцаў, якія пасля ўсталявання сацыялістычнага ладу пачалі масава ўцякаць ад яго ў Заходні Берлін. Заходнія ж берлінцы заўсёды маглі спакойна пераадольваць граніцу з усходняй часткай горада і, заплаціўшы 25 марак за дзень, спакойна гуляць на Аляксандр-пляцы ці Унтэр-дэн-Ліндэн, ехаць жа ў Заходнюю Германію яны маглі толькі па спецыяльных транзітных трасах...

Цяпер, калі прайшло ўжо нямала часу з моманту аб'яднання Германіі, і сляды Берлінскай сцяны амаль што зніклі, любы турыст яшчэ можна з вялікай доляй дакладнасці вызначыць, у якую частку горада, заходнюю ці ўсходнюю, ён трапіў. Кантраст ва ўладкаванасці гарадскіх вуліц, станцый метро, дагледжанасці будынкаў усё яшчэ відавочны. Хаця ўсходнія крамы і рэстараны ўжо мала чым адрозніваюцца ад заходніх, ва ўсходнім Берліне яшчэ шмат дамоў з аблезлай тынкоўкай, жылля з пячным ацяпленнем і драўлянымі лесвіцамі паміж паверхамі. Тут здымае кватэры шмат эмігрантаў (туркаў, курдаў, арабаў, паўднёвых славян), а таксама студэнтаў, у тым ліку тых, якія паходзяць з заходняй часткі горада. Прычына зразумелая — кватэры тут больш танныя.

### РЫШТАВАННІ

Але будынкі гэтыя вельмі актыўна адбудоўваюцца, рэстаўрыруюцца, увогуле Усходні Берлін ператварыўся ледзь не ў суцэльную будаўнічую пляцоўку. Праўда, самі берлінцы прызнаюць, што работы будаўнікам яшчэ хопіць не на адзін дзесятак гадоў.

Бадай, самая унікальная і маштабная будоўля распачалася ў цэнтры Берліна, на Пастдамер-пляц, дзе ў часы Берлінскай сцяны існавала як бы нейтральная тэрыторыя, на якой забаранялася нешта ўзводзіць. Такім чынам там захавалася шмат месца, на якім цяпер пачалося будаўніцтва вялікага бізнес-цэнтра, якое спраектавана і фінансуецца магутнымі банкамі і кампаніямі кшталту «Соні». У хуткім будучым тут узнікнуць шматкіламетровыя тунелі, вакзал, офісныя будынкі-хмарачосы... Цяпер жа на кіламетры вакол Пастдамер-пляц толькі і бачыш будаўнічыя краны, бульдозеры... У жыхароў і гасцей Берліна да гэтай будоўлі настолькі вялікая цікавасць, што з мэтай інфармавання аб праектах і ходзе будаўніцтва на гэтай плошчы быў узведзены спецыяльны інфармацыйны цэнтр, дзе будучы дзелавы цэнтр аб'яднанага Берліна прадстаўлены у макетах, схемах, малюнках і відэафільмах... Рыштаванні сталі самым звычайным краявідам Берліна, сведчаннем магутнага развіцця нямецкай эканомікі. Сімвалам жа аднаўлення аб'яднанай Германіі, несумненна, з'яўляецца будынак колішняга рэйхстага, які доўгі час не выкарыстоўваўся па прызначэнню, а цяпер увесь пакрыты рыштаваннямі: у канцы гэтага стагоддзя тут размесціцца бундэстаг ФРГ. Берлін дэфакта стане сталіцай аб'яднанай дзяржавы.

### СЛЯДЫ МІНУЛАГА

У галоўным цэнтры Усходняга Берліна, на Аляксандр-пляцы на ўвесь гэты бурны капіталістычны рост скептычна паглядаюць бронзавыя Карл Маркс



Сцяг ФРГ перад рэйхстагам.

і Фрыдрых Энгельс. Нягледзячы на радыкальную змену дзяржаўнага ладу, гэтыя помнікі, а таксама розныя барэльефы, мемарыяльныя пліты ў гонар гэтых мысліцеляў і сацыялістычных пераўтварэнняў у ГДР захаваліся і добра дагледжаюцца. Імёны Карла Маркса, Розы Люксембург засталіся ў назвах некаторых вуліц і плошчаў. Дзейнічае тэатр імя Максіма Горкага, у якім можна паглядзець і некаторыя п'есы самога Аляксея Максімавіча. Немцы да ўсяго гэтага ставяцца па-філасофску: што было, тое было, з гісторыі гэта не выкінеш. Як не выкідваецца з гісторыі і іншая яе частка, нацысцкая. У колішніх падвалах гестапа дзейнічае музей, ёсць некалькі мемарыялаў як у заходняй, так і ва ўсходняй частцы горада. Адзін з іх — добра вядомы нам мемарыял у Трэптаў-парку, давялося наведаць і ў захапленні адзначыць, як бездакорна ён утрымліваецца. Ніякіх пашкоджанняў ці малюнкаў, зробленых аэразольнай фарбай, якіх у іншых месцах Берліна не бракуе. Уразілі і маштабы гэтага мемарыялу, зробленага не шкадуючы плошчы і матэрыялу. На шматлікіх стэлах некранутымі захаваліся цытаты з выказванняў на ваенную тэму за подпісамі І.Сталіна. Такім чынам, тут мы можам толькі падзякаваць немцам за захаванне добрай памяці пра нашых воінаў.

Ёсць у Берліне і іншыя месцы, але там ужо захоўваецца памяць пра змагароў з камуністычным рэжымам. Адно з такіх месцаў — архіў Роберта Хавемана, дзе сабраны матэрыялы пра дзейнасць дысідэнцкіх груповак, якія пазней аб'яднаіліся ў вядомы «Новы форум», пра дзейнасць спецыяльнай паліцыі «штазі», пабудаванай па ўзору савецкага КДБ. У штазі часоў ГДР супрацоўнічала да 1,5 — 2 працэнтаў насельніцтва краіны. Рэжым у ГДР, як сведчаць супрацоўнікі архіва Хавемана, быў даволі жорсткі, ад яго пацярпела шмат людзей. Цяпер гэтыя людзі часта збіраюцца ў гэтым архіве, успамінаюць, дзеляцца ўражаннямі.

Ёсць, зразумела, людзі, якія маюць пра часы сацыялізму зусім іншыя ўражанні і ўспаміны.

### ЛЕВЫЯ

Да левых у ФРГ адносяць партыю дэмакратычнага сацыялізму, «зялёных» і некаторыя іншыя партыі. ПДС мае сталую падтрымку прыкладна 20 працэнтаў выбаршчыкаў ва ўсходніх землях Германіі, а ў цэлым па краіне — 5 працэнтаў. Таму як сур'ёзны палітычны фактар левыя сілы могуць успрымацца толькі на Усходзе. Як ні дзіўна, левых падтрымлівае нямала моладзі. Дэпутат берлінскага гарадскога парламента Бенямін Хоф, напрыклад, мае ўсяго 20 гадоў і з'яўляецца перакананым сацыялістам, ад ПДС ён і трапіў у мясцовы ландтаг, уліўшыся ў яго левую апазіцыю. Прычым гэтая апазіцыя здольна ўплываць на прыняцце рашэнняў у ландтагу, ці прынамсі выступаць з заявамі і прапановамі.

— Вядома, мы прызнаём, што цяперашняя дзяржаўная сістэма лепшая, чым пры камунізме, але і гэтая сістэма не спрацоўвае ва ўсім. Сацыялісты адстойваюць правы моладзі, беспрацоўных... Таму ў нас шмат прыхільнікаў сярод школьнікаў, студэнтаў, былых грамадзян ГДР. Акрамя гэтага левая апазіцыя сур'ёзна заклапочана праблемамі аховы прыроды, бяспекі на атамных электрастанцыях,— падкрэслівае Бенямін Хоф.

Такім чынам, сённяшнія нямецкія левыя зусім не пакутуюць ад настальгіі па часах сацыялізму, яны ставяць перад сабой куды больш простыя і карысныя мэты.

У цэлым, па словах Б. Хофа, левыя маюць найбольшую падтрымку ва Усходнім Берліне — тут ПДС мае да 20 тысяч сваіх членаў, затое ў Заходнім за іх кандыдатаў галасуюць толькі 4 працэнты выбаршчыкаў. У Заходнім Берліне антыкамунізм, па зразумелых прычынах, заўсёды карыстаўся вялікай падтрымкай, многія яго жыхары яшчэ і цяпер баяцца камунізму. З другога боку, пакуль яшчэ захоўваецца кантраст паміж умовамі жыцця заходніх і ўсходніх немцаў, і ПДС абараняе інтарэсы апошніх. Хаця той жа Б.Хоф сведчыць, што розніца паміж усходнімі і заходнімі раёнамі паступова сціраецца.

Лёс многіх прадпрыемстваў і фірмаў з Усходняй Германіі ва ўмовах канкурэнцыі з больш развітымі заходнімі фірмамі відавочны. У якасці прыкладу можна ўзяць хаця б самую папулярную ў ГДР маладзёжную газету «Юнге вельт». Калісьці яна мела паўмільённыя тыражы, цяпер яе тыраж упаў да 40 тысяч экземпляраў, бо на рынак прыйшлі заходнія, больш цікавыя і аб'ёмныя газеты, з якімі не змаглі канкурыраваць выданні былой ГДР. У 1989—90 гадах «Юнге вельт» пацярпела крах і была прададзена аднаму заходняму немцу з сацыял-дэмакратычнымі перакананнямі.

«Цяпер мы распаўсюджваемся толькі ва ўсходніх землях, хаця і рабілі няўдалую спробу выйсці на агульнанямецкі рынак, у рэдакцыю былі запрошаны заходнія журналісты, памянялася структура рэдакцыі»,— адзначыў галоўны рэдактар газеты Клаус Бехкен. Аднак і палітыка новага гаспадара прывяла да краху, з 1995 года журналісты самі з'яўляюцца гаспадарамі свайго выдання, якое па-ранейшаму захоўвае левае адценне. З-за яе левага радыкалізму знаходзіцца няшмат рэкламадаўцаў, таму фінансавы стан рэдакцыі дрэнны. Што ў прынцыпе падкрэслівае бесперспектыўнасць левага радыкалізму ў сучаснай Германіі.

Левыя погляды, партыі і газеты застаюцца маргінальнымі. Пануе тут іншая сістэма, не такая, як апісвалі К.Маркс і Ф.Энгельс у сваіх працах аб капіталізме, нашмат больш мяккая і блізкая да таго, чаго жадаюць сацыялісты: з бясплатнай вучобай у школах і універсітэтах, сацыяльнымі гарантыямі. Прычым берлінцам не трэба далёка хадзіць, каб упэўніцца ў перавагах гэтай, заходняй, сістэмы.

**Валер КАЛІНОЎСКІ,**
Берлін — Мінск.

**Рэдакцыя выказвае падзяку за падтрымку ў арганізацыі камандзіроўкі ў Берлін карэспандэнта «Звязды», аказаную з боку Беларускага саюза моладзі і берлінскага Таварыства маладзёжнай прэсы.**



Такім, як мяркуецца, будзе новае аблічча Берліна.

**ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ**

## ЦУКРОВЫ РЭКОРД

Сёлета ў Польшчы будзе выпрацавана рэкордная колькасць цукру. Як сведчаць разлікі, яго будзе атрымана амаль 2,2 мільёна тон, альбо амаль на 700 тысяч тон больш, чым у мінулым годзе. Прычынай гэтага з'яўляецца высокая ўраджайнасць буракоў, значна большае ўтрыманне ў іх цукру — 12,93 працэнта супраць 12,01 працэнта ў мінулым годзе. Адыгралі сваю ролю і пасяўныя плошчы, якія павялічыліся сёлета на 70 тысяч гектараў і склалі звыш 450 тысяч гектараў.

Аднак гэты рэкорд наўрад ці прынясе радасць пакупнікам. Бо, нягледзячы на яго, цэны на цукар у магазінах не толькі не змяншаюцца, а нават растуць. За апошнія тры кварталы цана кілаграма цукру павялічылася на 22 працэнты і складае зараз 1,70—1,90 злотых (1 долар ЗША раўняецца прыкладна 2,8 злотага). Абумоўлена гэта не толькі высокімі выдаткамі вытворчасці цукру, але і тым, што на ўнутраны рынак траліць толькі 1,5 млн. тон цукру. А гэтага недастаткова, каб задаволіць пакупніцкі попыт. Частка цукру будзе экспартавана. Але гэта зноў жа не на радасць пакупнікам. Бо сусветная цана цукру амаль у два разы ніжэйшая за польскую і на экспартаваную частку неабходна выдаткоўваць даплаты. Экспарт жа сёлета складзе каля 130 тысяч тон і каля 120 тысяч тон у будучым годзе.

А калі раптам замежныя пакупнікі адмовяцца? Нават тады польскім пакупнікам асаблівай палёгкі не будзе. Бо той цукар застанецца ў рэзерве на будучы год: а раптам не ўродзяць буракі.

## БАЙКОТ ПАРНАГРАФІІ

У Польшчы працягваецца барацьба супраць распаўсюджвання парнаграфіі. Як вядома, рэзкае змаганне з ёю пачалі ў лілені бацькі з Беластока. З таго часу антыпарнаграфічная акцыя ахоплівае ўсё больш рэгіёнаў Польшчы. Усё пачыналася з пратэсту бацькоў супраць продажу ў кіёсках «Рух» газет, часопісаў і кніг парнаграфічнага зместу. Гэты пратэст падхапілі многія газеты, і ён з вузка рэгіянальнага сёння набыў практычна агульнапольскае гучанне. Да яго далучаюцца не толькі бацькі, настаўнікі, але і грамадскія арганізацыі, школы.

Прыхільнікі акцыі лічаць, што распаўсюджванне парнаграфічных выданняў з'яўляецца злачынствам супраць маралі і здароўя, бо парнаграфія правакуе рост злачыннасці сярод моладзі, парушае маральныя нормы яе жыцця, часта ўплывае адмоўна на псіхічны стан юнакоў і дзяўчат.

У многіх гарадах і навучальных установах ствараюцца грамадскія саветы па каардынацыі намаганняў праціўнікаў парнаграфіі і для пашырэння гэтага руху.

**Анатоль БАЯРСКІ.**

## РАДЫЁ 12 снежня

Апошнія паведамленні: 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 15.00, 22.00, 23.50. 9.00 — «Сёння ў газетах». 9.15 — «Па родным краі». На сувязі — Магілёў. 9.30 — прграма «Пульс». 10.05 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 10.35 — «Для тых, хто дома». 11.35 — працяг інфармацыйна-аналітычнай праграмы «Прамень». 13.10 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Марым, слухаем, усміхаемся...» 15.10 — музычны канал. 16.05—18.00 — «Радыё «Карусель» — дзецям і падлеткам». 16.00 — «Светач». Пазнавальная праграма. 16.35 — «Першыя сцяжынкі». Знаёмім з літаратурнай творчасцю юных. 17.00 — «Школа здароўя» 17.15 — «Званочак». Літаратурна-музычная перадача для малышоў. 18.00—18.40 — перадачы абласных тэлерадыёаб'яднанняў. (18.00—19.00 — «Поступ часу». Вячэрняя праграма радыёстанцыі «Сталіца»). 19.00 — «Постфактум-радыё». 20.00 — «Фальклорны куфэрак». Канцэрт. 20.20 — «Супольнасць». 20.50 — вячэрняя казка. 21.00 — «Для вас, ветэраны». 22.10 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 0.02—1.00 — «Альбом для Сашы». Перадача памяці габаіста А. Прыходзькі



# ЛАЎКА АЎТААМАТАРА

## УЗАЕМАЗАМЯНЯЛЬНАСЦЬ — СПРАВА АДКАЗНАЯ

***«Ведаю, што «Запарожац» на канвееры змяніла «Таўрыя», але не ведаю, ці ёсць у «Таўрыі» такія дэталі, якія маглі б падысці да «ЗАЗ-968МБ».***

**Мікалай Томкавіч, г. Мінск.**



Адказаць на ліст мы папрасілі інжынера **Пятра ЛАПЦЕВА**, які займаецца пытаннямі ўзаемазамяняльнасці.

### АБ СВЕЧКАХ ЗАПАЛЬВАННЯ

Свечкі А23, якія ўстанаўліваюцца на аўтамабілі «ЗАЗ-968Б» з рухавіком МеМЗ-968 ці Ме-МЗ-968Г, выкарыстоўваюцца на рухавіках усёй сям'і базавых мадэляў МеМЗ-968, -969. Гэта машыны «ЗАЗ-968», «ЛуАЗ-969» (з рухавіком МеМЗ-969. -969 А) розных іх мадыфікацый, выканання і камплектацыі: «ЗАЗ-968А», -968М, -968 МГ, -968МД, -968 МР, 968 М-005, «ЛуАЗ-969», -969А, -969М, а таксама папярэдняя мадэль «ЗАЗ-968б» з рухавіком МеМЗ-968. Акрамя таго, такім жа тыпам свечак запальвання А23 камплектуюцца рухавікі МеМЗ-245 і іх мадыфікацыі на сучасных аўтамабілях маркі «Таўрыя» ЗАЗ-1102; прымяняюцца і на матацыклах ММВЗ-3.112, «ІЖ-Юпітэр-3, -4, -5», «Іж-Планета-4, -5» («ІЖ-7.107»), на мапедзе «Рыга-9».

На далейшых мадыфікацыях рухавіка МеМЗ-245 з бескантактавай сістэмай запальвання і на мадэлі МеМЗ-247 з электроннай сістэмай запальвання аўтамабіляў «Таўрыя» выкарыстаны свечкі тыпу А17ДВР, А17ДВ-10 ці АК17ДВ-10, якія не з'яўляюцца ўзаемазамяняльнымі з А23 ні па далучальных параметрах, ні па цеплавых характарыстыках.

Свечкі запальвання тыпу А23 узаемазамяняльныя са свечкамі некаторых замежных фірмаў: «ПАЛ-Супер» (Чэхія) — N84, па старой маркіроўцы яе аналагі 14-94, 14-3, 14-8; «Чэмпіён» (Англія, ЗША) —NK-10; «Бош» (ФРГ) - W5A, старое абазначэнне — W225T1, «Беру» (ФРГ)-225/14, «Ізалятар» (былая ГДР) — М-14-225, М14-240, «Маршал» (Францыя) — 35S, «НЖК» (Японія) B-7HS, «Марэлі» (Італія) — CW8N, CW7N, «A.C.» (Францыя)-42F, «Motor-Kraft» (ЗША) — AE3, «Іскра» (Польшча) — F75

Практыка паказвае, што тыя свечкі добрыя, якія надзейна і доўга працуюць, не прыносячы клопатаў вадзіцелю. Забяспечваецца гэта высокай якасцю іх вырабу.

Так, свечкі «ПАЛ-Супер» выкарыстоўваюцца на айчынных легкавых аўтамабілях «ЗІЛ» найвышэйшага класа.

Свечкамі гэтай фірмы камплектуюць вядомыя матацыклы «Ява». Водгукі вадзіцеляў аб іх самыя добрыя.

Пытанне аб узаемазамяняльнасці колаў і счаплення мы разгледзім у наступных нумарах «Аўталаўкі».

*Барыска! Сонейка наша яснае! Віншуем цябе з днём нараджэння. Няхай будзе тваё жыццё доўгім і шчаслівым.*

***Тата, мама, Глеб Каваленкавы з Забароўя.***

## Віншаванні

*Віншуем з днём нараджэння Марыну ПАНЯЗОВІЧ з в. Цялуша. Жадаем шчасця, здароўя на доўгія гады.*

***Дзед Лёня, баба Ніна, дзядзька Віця, в. Ташылавічы.***

*Сардэчна віншуем Аляксандра КУЛЕША з в. Забалоцце з днём нараджэння. Здароўя табе, шчасця, радасці, поспехаў у вучобе.*

***Мама, тата, брат.***

*Віншую з 18-годдзем дарагога ўнука Андрэя БАТУРАВА з г. Вілейкі. Жадаю здароўя, поспехаў у вучобе, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

***Бабуля Вера.***

*Ад усёй душы віншую з днём нараджэння любімую мамачку Валянціну Антонаўну АСТАПЕНКА. «Пусть в жизни ждут тебя лишь тёплые слова, и сердце никогда от боли не заплачет, и пусть всегда кружится голова от счастья, радости, удачи!»*

***Сын Мікола, г. Жодзіна.***

*Сардэчна віншуем з 50-годдзем любую жонку, матулю і бабулю Марыю Мацвееўну ЛАЎРЭНАВУ. Жадаем моцнага здароўя, удачы ў жыцці, сямейнага шчасця і даўгалецця.*

***З любоўю муж, дачка, зяць, унук, г. Мінск.***

*Ад усёй душы віншуем любую дачушку і ўнучку Таццяну Уладзіміраўну СЫЧОВУ з 18-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, весялосці, поспехаў у вучобе і шчасця на ўсё жыццё.*

***Матуля і бабуля, г. Мінск.***



### КРЫК АБ ДАПАМОЗЕ

Тэрмінова патрабуецца дапамога Кісель Наталлі, 1985 года нараджэння, якая пакутуе ад хранічнага таксаплазмозу, цэрэбральнага арахнаідыту, вегетасасудзістай дыстаніі. Дапамагчы дзяўчынцы могуць толькі ў клініцы Алун г. Іерусаліма ў Ізраілі. Усіх, хто нераўнадушны да трагедыі, бацькі просяць прысылаць грошы на дабрачынны рахунак Кісель Т. В., які адкрыты ў Маскоўскім аддзяленні № 8388 АСБ «Беларусбанк», МФО 153001604 на разліковы рахунак № 3015000007316 з паметкай: «На лячэнне Кісель Наталлі».



**Утерянное свидетельство о праве на льготы № 181138 серии А, выданное на имя ВЕРДИХАНОВА Сергея Идмихановича, считать недействительным.**

*ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...*

## НЕ ВЫМАЎЛЯЙЦЕ ПРАКЛЁНАЎ

Праклятых людзей праследуюць хваробы, вар'яцтва, самазабойствы, якія сатруць іх род з зямлі, калі яны не пакаюцца. Раней пра гэта гаварылі толькі святары. Нядаўна да іх далучыліся вучоныя.

Кроўю сэрца пісаў мой былы сусед па рэдакцыйнаму кабінету аўтабіяграфічныя апавяданні пра страчанае дзяцінства. Як у яго на вачах співалася ўся вёска, у тым ліку і яго сваякі. Як яго дзяды і дзядзькі ганяліся з нажамі і сякерамі за сваімі жонкамі, а потым страляліся з паляўнічых стрэльбаў ці вешаліся на салдацкіх дзягах. Як гнілі зажыва ад незразумелых хвароб ці канчалі жыццё ў «псіхушках». Ён ведаў прычыну гэтых няшчасцяў...

Яго продкі ўдзельнічалі ў разбурэнні праваслаўнага храма, прагналі святароў і пératварылі царкву ў тэатр. Асаблівым поспехам у камсамольцаў і камуністаў карысталася п'еса, у якой акцёры расстрэльвалі іконы. Іконы былі сапраўдныя, намоленыя, расстрэльвалі са смехам, прама ў алтары, дзе размяшчалася сцэна. Асабліва весяліліся, калі па ходу п'есы старая мармытала нешта наконт Божай кары.

І вось гэтая кара здзяйсняецца. Восем продкаў майго калегі, якія ўдзельнічалі ў расстрэле, нараджалі мноства дзяцей — і ніхто з іх не дажыў да старасці, усе памерлі пакутлівай смерцю.

Сусед мой баяўся, што сам сап'ецца ці звар'яцее. Таму доўга не жаніўся: не хацеў, каб яго дзеці сталі такія ж няшчасныя, як ён. Але за яго горача малілася маці, продкі якой не ўдзельнічалі ў кашчунстве. Потым ён сам пачаў хадзіць у царкву, спрабуючы замаліць сямейныя грахі. У яго з'явілася надзея на працяг роду.

Некаторыя словы могуць аказацца страшней за міны: яны «ўзрываюцца» ў генетычным апараце чалавека, скажаючы яго спадчынныя праграмы, выклікаючы мутацыі, што вядуць да выраджэння. З гэтым феноменам нечакана сутыкнулася група расійскіх даследчыкаў пад кіраўніцтвам старшага навуковага супрацоўніка аддзела тэарэтычных праблем РАН Пятра Гараева.

Вучоныя стварылі апарат, які пераводзіць чалавечыя словы ў электрамагнітныя ваганні, здольныя ўплываць на малекулы спадчыннасці — ДНК. Даследаванні праводзіліся на раслінах. І аказалася, што некаторыя словы выклікаюць мутагенны эфект жудаснай сілы. Курчацца і рвуцца храмасомы, мяняюцца месцамі гены. У выніку ДНК пачынаюць выпрацоўваць ненатуральныя праграмы, якія тыражыруе арганізм, забіваючы самога сябе ці сваіх нашчадкаў.

Па ацэнках спецыялістаў, гэтыя словы выклікалі мутагенны эфект, падобны на той, што дае радыеактыўнае апраменьванне магутнасцю 30 тысяч рэнтген! Страшна нават падумаць, што стала б з чалавекам пасля такой слоўнай апрацоўкі, калі 800 рэнтген лічацца для яго смяротнай дозай.

Але больш за ўсё здзівіла вучоных, што мутагенны эфект не залежаў ад сілы ўздзеяння. Яны вымаўлялі словы то гучным, то ціхім голасам, іншы раз шапталі ледзь чутна, але вынікі атрымлівалі аднолькавыя.

Вучоныя прыйшлі да высновы, што некаторыя чалавечыя словы валодаюць не энергетычным, а інфармацыйным уздзеяннем на ДНК. Сіла эфекту залежыць галоўным чынам ад зместу сказанага. Спадчынныя праграмы пашкоджваліся, калі даследчыкі гаварылі нешта жудаснае — вобразна кажучы, праклінали расліну. Тады правялі процілеглы эксперымент. Праз свой апарат вучоныя благаславілі насенне пшаніцы, забітае радыеактыўным апраменьваннем. Вынік перасягнуў усе спадзяванні: пераблытаныя гены, разарваныя храмасомы і спіралі ДНК сталі на свае месцы і зрасліся. Забітае насенне ажыло і ўзышло.

Даследаванні паказалі, што генетычныя апараты ўсіх жывых істот працуюць па універсальных законах. Вучоныя ўпэўнены, што сказаныя праз апарат праклёны і благаслаўенні выклікалі б у ДНК чалавека змяненні, падобныя на тыя, што адбыліся ў раслінах.

Але ў прынцыпе вучоныя не адкрылі нічога новага. Гэта вядома са старажытных часоў. Па малітвах многіх святых вылечваліся безнадзейна хворыя і ўваскрасалі мёртвыя. Благаславенне святых распаўсюджвалася на некалькі пакаленняў, калі нашчадкі былі дастойныя сваіх набожных продкаў. І хоць у параўнанні з апосталамі ведзьмакі валодаюць камарынай сілай, яе іншы раз бывае дастаткова, каб адным-двума словамі адправіць на той свет чалавека, не абароненага праваслаўнай верай.

Зрабіўшы мноства адкрыццяў, атрымаўшы кучу Нобелеўскіх прэмій, генетыкі нечакана былі збянтэжаны такім фактам. Так званыя літары генетычнага кода, якія раней лічылі асновай усіх спадчынных праграм, на самай справе адказваюць толькі за сінтэз бялкоў. Але, каб з гэтых «цаглінак жыцця» пабудаваць грандыёзны будынак жывога арганізма, патрэбны куды больш складаныя праграмы, у якіх змяшчаецца львіная доля ўсёй спадчыннай інфармацыі.

Дзе ж захоўваюцца праграмы? На гэтае пытанне змагла адказаць новая навука — хвалевая генетыка, заснавальнікам якой стаў Пётр Гараеў. Ён уявіў, што «праект будынка» зашыфраваны ў так званай смеццевай частцы ДНК, якая складае 99 працэнтаў яе даўжыні. Але зашыфраваны не ў хімічных рэчывах, а ў фізічных палях, якія ўтвараюцца вакол храмасом і маюць галаграфічную будову. У хвалевым геноме ўтрымліваецца ў згорнутым выглядзе інфармацыя пра ўвесь арганізм — яго мінулае, сённяшняе і будучае. Мала таго, малекулы ДНК здольны абменьвацца гэтай інфармацыяй з дапамогай акустычных і электрамагнітных хваляў, у тым ліку светлавых. І гэтая гіпотэза бліскуча пацвердзілася ў шматлікіх эксперыментах, напрыклад, даследчыкі навучыліся напампоўваць ДНК энергіяй святла і гуку. Яны быццам бы асвятлялі і прачытвалі невядомыя старонкі генетычных тэкстаў, запускаючы спадчынныя праграмы, якія адказваюць за рэзервовыя магчымасці арганізма. У выніку вылечваліся безнадзейна хворыя і ажывалі мёртвыя расліны.

Але самае дзіўнае, што гэтыя і іншыя цуды вучоныя выклікалі... словамі. Праўда, не любымі, а спецыяльна падабранымі, вымаўленымі ў незвычайным стане, з асаблівым пачуццём — словамі малітваў. А бессэнсоўныя словазлучэнні, звычайная мова ці механічнае чытанне малітваў давалі нулявы эфект. Адмоўным жа ён станавіўся, калі даследчыкі праклінали паддоследную расліну ці жывёлу.

— Мы прыйшлі да ашаламляльнай высновы, — расказаў мне Пётр Пятровіч, — што ДНК чуе чалавечую мову. Іх «вушы» спецыяльна прыстасаваныя да ўспрымання такіх акустычных і электрамагнітных ваганняў. Мала таго, малекулы спадчыннасці атрымліваюць і светлавую інфармацыю: чалавек можа не вымаўляць услых, а ў думках чытаць тэкст, але змест усё роўна дойдзе да клетачных ядраў.

Атрымлівалася, што чалавек падобны да памятнай кнігі, у якой пішуць свае водгукі ўсе жадаючыя, у тым ліку ён сам. А гэтыя тэксты не толькі фарміруюць яго асобу, але і ўдрукоўваюцца ў ДНК. Ад іх залежаць здароўе, дабрабыт, даўгалецце — лёс чалавека і яго нашчадкаў.

— Агульныя рысы маюць усе мовы свету, — сказаў Гараеў, — у тым ліку ДНКовыя. І генетычнаму апарату далёка не ўсё роўна, што вы думаеце, гаворыце і чытаеце: любыя словы могуць удрукоўвацца ў хвалевы геном. На яго ўплываюць не толькі вашы словы, але і навакольных. «С кем поведешься, от того и наберешься...» Прычым ДНК не разбіраюць, гаворыце вы з жывым чалавекам ці з героем тэлевізійнага серыяла — і той, і другі ўплывае на вашу спадчыннасць. Любое вымаўленае слова — гэта не што іншае, як хвалевая генетычная праграма, якая можа змяніць усё ваша жыццё.

З канцэпцыі Пятра Гараева вынікае дзіўная выснова: на хвалевым узроўні людзі здольны... апладняць адзін аднаго сваімі ідэямі, якія адыгрываюць ролю сперматазоідаў. Гэтыя ідэі змяняюць структуру асобы, устройваюцца ў хвалевы геном, уплываюць на абмен рэчываў і спадчынныя праграмы. Мы можам літаральна перарадзіць другога чалавека словамі, па свайму вобразу і падабенству.

**Міхаіл ДЗМІТРУК.**
**«Семья».**



## ТЭЛЕБАЧАННЕ 12 снежня

**Беларускае тэлебачанне**

**10.00** «Трапічная спёка». 19-я серыя. **11.00** Каралеўскае паляванне. **11.40** Госці ў хату. Экзатычныя прафесіі свету. **12.10** Фільм А. Таркоўскага «Салярыс». 1-я і 2-я серыі. **15.00** Навіны. **15.10** «Маналог аб каханні». Фільм-канцэрт. **16.20** «Будзь маім сланом», «Знарок». Мультфільмы. **17.00** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 8-ы клас. Францішак Багушэвіч і яго творчасць. **17.30** «Памежжа». Перадача з Гродна. **17.50** Урокі Наталлі Наважылавай. **18.20** Музычны антракт. **18.35** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад. **19.05** «Оскар». Тэлегульня. **19.40** «Трапічная спёка». 20-я серыя. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.10** А. Калягін і Л. Гурчанка у маст. фільме «Прахіндзіяда, ці Бег на месцы». **23.40** «Крок». Праграма для моладзі. **0.10** Навіны.

**ГРТ**

**14.00, 17.00** Навіны. **10.10** Ералаш. **10.25** Ранішняя пошта. **11.00** Смак. **12.20** Спектакль «Дарослая дачка маладога чалавека». **13.05** Серыял «Падводная адысея каманды Кусто». **14.20** «Саюзмультфільм» прадстаўляе... **15.10** Неяк аднойчы. **15.20** «Іграй, гармонік любы!» **15.50** У свеце жывёл. **16.30** КВЗ-асарці. **16.50** Надвор'е. **17.15** Дзмітрый Харацьян у фільме «Віват, гардэмарыны!» **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.40** Поле цудаў. **21.45** Песня-96. **22.35** Маст. фільм «Чорная акула».

**Расія**

**10.00** Весткі ў адзінаццаць. **10.15** «Дзядзька Ваня». Маст. фільм. **12.00** Ананімныя субяседнікі. **12.25** Працей простага. **13.00, 19.00, 23.25** Весткі. **13.20 —14.15** «Бітлз». Вялікая чацвёрка». 1-я серыя. **16.50** Свая гульня. **17.20** Караоке па-руску. **17.50** Аншлаг і К°. **19.35** Любімыя камедыі. «Службовы раман». **22.20** «Кубак Расіі». Міжнародныя спаборніцтвы па фігурнаму катанню. **23.40 —1.30** Фільмы А. Таркоўскага. «Люстэрка».

**Санкт-Пецярбург**

**10.10** «Гонар маю». Ваенны агляд. **10.40** «Неўтаймаваная Афрыка». Дак. серыял. **11.10** Ток-шоу «Наўздагад». Начальнік падатковай паліцыі А. Няфёдаў. **11.40** Страсці-мардасці. **11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Інфарм ТБ. **12.10** Тэлеспектакль «Перад бурай» па п'есе М. Горкага «Апошнія». **14.10** Яшчэ адна Расія. **14.45** Тэатральная правінцыя?.. **15.10** Спартыўны агляд. **15.25** Парадоксы гісторыі. «Невядомы Лунін». **16.05** Уікэнд з дэтэктывам. **16.35** Студыя «Уявi». **17.00** Сёння — Дзень Канстытуцыі. **17.35** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **19.25** Лепшыя песні нашай Радзімы. Шоу-група «Доктар-Ватсан». **20.55** Блеф-клуб. **21.35** Тэатр Лаймы Вайкуле. **22.20** Дзённік балетнага конкурсу «Мая-96». **22.30 —0.40** «Сябры і гады». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.

**НТБ**

**8.40** Я — целаахоўнік. **8.50** Лепшая палавіна. **9.00** Віктар Авілаў, Яўген Дваржэцкі, Аляксей Пятрэнка, Ганна Самохіна ў фільме «Вязень замка Іф». 1-я серыя. **10.10** Праграма для падлеткаў. **10.30** Тэлегульня «Зразумей мяне». **11.00** Сёння днём. **11.20** Кніжныя навіны. **11.35** Агні вялікага горада. **11.50** Камп'ютэр. **12.00** Маст. фільм «Гэты вар'яцкі, вар'яцкі, вар'яцкі свет» (ЗША). **14.35** Музычная праграма «НТБ-плюс». **15.00** Сёння днём. **15.15** Спорт. **15.25** Гэты дзень у гісторыі. **15.30** Група «07». Наталія Платыцына. **15.50** «Ключы ад форта Байяр». **17.30** Тэлегульня «Сто да аднаго». **18.00** Сёння вечарам. **18.35** Герой дня. **19.00** Куміры старога кіно. Фільм Стэнлі Кубрыка «Спартак». Частка 1-я (ЗША). **21.00** Сёння вечарам. **21.35** «Спартак». Частка 2-я. **23.10** Шахматы. Супертурнір у Лас-Пальмасе. **23.15** Маст. фільм «Такая дзіўная эротыка» (Італія).

**8-ы канал**

**18.00** Мультфільм «Каменьчык і пінгвін». **18.30** Маст. фільм «Зямельныя ўчасткі. **20.15** Мульт-планета. «Том і Джэры». **20.30** «Спяваючыя ў цярноўніку». **22.00** «Жыццё сабачае...» **22.15** Маст. фільм «Лялька па імені смерць». **23.55** Без каментарыя.


**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

**Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.**

**Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.**

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах —32-04-52, 32-31-98.* ***ФАКС:*** *68-27-79, 68-28-77.* ***E-mail*** *— daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**
**Тыраж 94665. Індэкс 63850.**
**Зак. № 7786.**
**Выходзіць 250 разоў на год.**
**Нумар падпісаны ў 20.15.**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**